# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №№ 23 (184), 28 ЧЭРВЕНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ



*Дзень Смутку — 22 чэрвеня, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, і Дзень Радасці — 3 ліпеня, час вызвалення зямлі Беларусі ад фашысцкай акупацыі, сёння раздзяляе ўсяго крыху больш за тыдзень. А ў той далёкі час выпрабаванняў гэтыя даты раздзялялі цэлыя чатыры гады чалавечых пакут і сапраўднага гераізму нашых суайчыннікаў.*

*І сёння — час выпрабаванняў для нашай Бацькаўшчыны, але ўжо эканамічных. Тым не менш, яна не забывае аб сваіх славутых сынах, аб тых, хто загінуў*



*у полымі ваеннага ліхалецця. Прыкладам таму — стварэнне помніка герою-лётчыку Аляксандру Гараўцу на Віцебскай зямлі. Тут ён нарадзіўся, сюды вярнуўся, каб навечна быць сярод землякоў.*

*Аб стваральніках помніка і людзях, якія спрыялі гэтай высакароднай справе, чытайце* *на стар. 4 — 5.*

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# СІТУАЦЫЯ АГУЛЬНАЯ ДЛЯ ЎСІХ

***Апошнім часам дзяржаўны друк, які фінансуецца з рэспубліканскага бюджэту, вобразна кажучы, трасе ліхаманка. Адным выданням нестае грошай на паліграфічныя паслугі, другім — на саму паперу, трэцім — на зарплату. Зразумела: эканамічнае становішча ў краіне надзвычай цяжкае. Адсюль узнікаюць пэўныя канфліктныя сітуацыі — у газет і часопісаў з чытачамі, якія не атрымліваюць інфармацыі аб надзённым жыцці, а ў рэдакцыйных калектываў — з Міністэрствам культуры і друку, праз якое вядзецца дзяржаўнае фінансаванне перыёдыкі. Апошні прыклад — адкрыты ліст з рэдакцыі газеты "Знамя юности" (24 чэрвеня г.г.) з сур'ёзнымі абвінавачваннямі кіраўніка Міністэрства А.І.Бутэвіча ва ўсіх бедах гэтага выдання.***

***Газета "Культура" аказалася ў значна горшых эканамічных умовах у маі і чэрвені г.г. Таму мы вырашылі звярнуцца да Анатоля Іванавіча з просьбай растлумачыць сітуацыю.***

— Я не тэлефанаваў галоўнаму рэдактару "Знамя юности" пасля публікацыі, — сказаў ён, — бо не збіраюся высвятляць адносіны, гэта не мой стыль працы. Зрабілі інакш: падрыхтаваны адказ, дзе мы даем поўную выкладку, якім чынам фінансаваліся ўсе выданні без выключэння. А было так. На пачатку года на нарадзе галоўных рэдактараў газет і часопісаў абмяркоўвалася пытанне, у якіх памерах пры цяперашнім эканамічным крызісе мы можам фінансаваць тое або іншае выданне. Каму было выдаткавана на агульныя расходы 75 працэнтаў з бюджэту, каму — 50, а каму і ў меншых памерах. І гэтая сума была заяўлена ў Мінфін. Пасля таго як Мінфін скарэкціраваў рэальную агульную суму, мы яе ў адпаведнасці з вызначанымі працэнтнымі фінансавымі стаўкамі падзялілі. А паколькі сродкаў было выдзелена менш заяўленага, таму рэальная сума кожнаму выданню была зменшана, у тым ліку — і газеце "Знамя юности". На сённяшні дзень практычна ўсе выданні, якія фінансуюцца праз Міністэрства культуры і друку, вобразна кажучы, ужо "з"елі" ўсю сваю гадавую норму. Больш таго, некаторыя выбралі па 120 — 140 працэнтаў гэтай гадавой нормы. І што атрымліваецца? Факт, але гэтая норма была пераразмеркавана ўнутры газет за кошт тых, хто добра сам сябе забяспечваў фінансава. Хто ад сваёй падпіснай цаны больш атрымліваў прыбыткаў, той менш браў з бюджэту. І таму гэтыя зэканомленыя бюджэтныя сродкі выдаткоўваліся таму выданню , якое або рабіла дэмпінгавую падпісную цану, або не хацела само зарабляць.

Сёння ў крытычнай сітуацыі апынулася не толькі "Знамя юности". У мяне былі прадстаўнікі часопіса "Беларуская думка", якія таксама кулуарна крытыкуюць міністра і Міністэрства за нежаданне фінансаваць выданне Кабінета міністраў. Той жа прынцып: мы павінны былі іх прафінансаваць у памеры 75 працэнтаў, але ў адпаведнасці з недададзенай Мінфінам агульнай сумай гэты працэнт зменшаны. Мы павінны былі на год даць, умоўна кажучы, 115 мільёнаў рублёў, а выдалі фактычна — 160 мільёнаў. Дык на каго крыўда? Крыўда павінна была быць у тых рэдакцый, якія мы міжволі [illegible] дафінансавалі з-за таго, што яны самі добра зарабляюць праз рэкламу і г.д. Таму і "Знамя юности" і іншыя, хто крытыкуе пазіцыю Міністэрства, маўляў, мы ім заказалі труну ці хочам пакласці іх у труну, — не маюць падстаў так сцвярджаць. Урэшце, хай гэта застаецца на сумленні саміх журналістаў і рэдактараў. Ніколі Міністэрства не выступала супраць якогасьці выдання. У той час, калі ў "Знамя юности" прыйшоў новы рэдактар (а ў нас былі фінансавыя цяжкасці з усімі выданнямі), мы, атрымаўшы пэўную суму ад Мінфіна, іменна гэтай газеце пералічылі мільярд рублёў (ніколі такіх пералічэнняў ні ў водную рэдакцыю не давалі, а разавых — тым больш)! Рэдактар жа папракае нас і Кабінет міністраў, што ён прасіў значна больш, каб разлічыцца з пазыкамі. Было б мэтавае выдзяленне грошай — ні міністр, ні Міністэрства на іншыя патрэбы іх не аддалі б. Мэтавага выдзялення грошай "Знамя юности" не было.

Цяпер пра прынцыпы нашых адносінаў да газет. Так, сапраўды зараз цяжка ўсім — і дзяржаве, і Мінфіну, і Кабінету міністраў цяжка. А таму былі прапановы, каб мы скарацілі спісы фінансавання выданняў напалову. Зараз фінансуецца сорак чатыры выданні, а пакінуць трэба было дваццаць два. Я, як міністр, не мог пайсці на гэта. Яшчэ раз накіраваў ліст у Кабінет міністраў з просьбай пакінуць фінансаванне на гэты год у тых аб'ёмах і ў тых выданнях, якія былі на пачатак года. Ні рэдакцыі, ні чытачы сёння не гатовыя да таго, каб змяніць сітуацыю. Што датычыць будучага года, дык сапраўды, мы павінны будзем разам з рэдактарамі думаць, якім чынам пабудаваць формулу фінансавага ўдзелу дзяржавы ў падтрымцы выданняў. Напрыклад, ёсць думка органаў дзяржаўнага кіравання скараціць колькасць выданняў, якія фінансуюцца праз бюджэт. Па прынцыпе — адна газета і адзін часопіс на міністэрства або ведамства. Сёння ж Міністэрства культуры і друку мае 6 выданняў, Міністэрства адукацыі і навукі — восем і г.д. Безумоўна, выданні можна нарошчваць бясконца і ўсе яны ў прынцыпе патрэбныя. Але гэта магчыма, калі ёсць грошы ў бюджэце.

Я гаварыў з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Васілевічам Русакевічам. Ён пагадзіўся з тым, што на гэты год не трэба мяняць формулу фінансавання. Спадзяюся, што Кабінет міністраў у цэлым гэтую прапанову падтрымае і праблема на гэты год здымаецца. Так што, як бачыце, нават насуперак афіцыйным указанням мы ідзем на тое, каб захаваць сітуацыю сённяшнюю, а не пагоршыць становішча. У сувязі з гэтым хацеў бы, каб журналісты пры выкладанні фактаў кіраваліся не эмоцыямі, а фактамі.

І вось вам яшчэ факт. Па нашых прапановах для таго каб забяспечыць тыя прынцыпы, якія мы заклалі, нам патрэбна было атрымаць 40 мільярдаў рублёў. На практыцы мы атрымалі 16,5 мільярда. Гэта складае прыкладна 40 працэнтаў гадавой патрэбы. Зыходзячы з таго, што газета "Знамя юности" павінна была фінансавацца ў памеры 50 працэнтаў выдаткаў на паперу і ёй павінны былі вяртацца затраты на паліграфічныя паслугі, экспедытаванне і дастаўку, была запланавана сума на год — 1 мільярд 403 мільёны рублёў. На 1 чэрвеня г.г. рэдакцыі ўжо выдзелены 1 мільярд 885 мільёнаў рублёў. Фактычна яна выбрала гэтыя грошы за паўгода. І вось тут хацелася б сказаць пра няроўныя ўмовы самафінансавання. "Беларуская ніва", напрыклад, забяспечвае сябе на 59 працэнтаў, "Работніца і сялянка" — на 87 працэнтаў зарабляе грошы сама, а гэта ж — беларускамоўны часопіс. "Знамя юности" ўтрымлівае сябе толькі на 35. Але разам з тым, нягледзячы на агульныя цяжкасці з фінансаваннем, дзяржава свае функцыі выконвае ў поўным аб'ёме. Я сказаў ужо, што на год мы павінны былі атрымаць 16 з паловай мільярда, але ўжо на 1 чэрвеня мы атрымалі 16 мільярдаў 870 мільёнаў — нават больш, чым павінна было быць на год. Зараз ідзе індэксацыя на другое паўгоддзе. Вядома ж, мы дамаўляемся з Мінфінам, каб каэфіцыент індэксацыі быў больш-менш прыстойны, але вырашаць гэта будзе Кабінет міністраў і прэзідэнт.

Часам пэўныя выданні крыўдуюць, што, маўляў, мы больш падтрымліваем беларускамоўныя рэдакцыі газет і часопісаў. Глядзіце самі. "Звязда" — беларускамоўная газета, а яе галоўны рэдактар — член калегіі Міністэрства культуры і друку. Аднак фінансаванне газеты склала 81,6 працэнта гадавога плана. А рускамоўнай "Знамя юности" — на 143,4 гадавога працэнта. Таму крыўда гэтай газеты неабгрунтаваная. Увогуле высвятленне адносінаў праз друк — не лепшы варыянт для паразумення. Такая практыка, дарэчы, ужо была. Ігар Асінскі, заступіўшы на пасаду галоўнага рэдактара "Советской Белоруссии", калісьці пачынаў з таго ж: раскрытыкаваў і Міністэрства, і Кабінет міністраў, маўляў, яны нібыта былі супраць гэтай газеты. А што атрымалася на практыцы? Ну што за карысць ад такіх пасажаў: маўляў, з'ехаў міністр у прыемную камандзіроўку за мяжу, а тут усё наперакасяк. Між іншым, мне было даручана Кабінетам міністраў удзельнічаць у нарадзе міністраў культуры ўсіх еўрапейскіх краін у Савеце Еўропы. З-за таго што я паехаў, ніякі працэс тут не спыніўся. Намеснік міністра культуры і друку Station Станіслаў Антонавіч Нічыпаровіч правёў нараду з рэдактарамі, і яна дала падставу майму намесніку прыняць рашэнне пачакаць, пакуль не будзе высветлена сітуацыя з дадатковым фінансаваннем да канца гэтага квартала. Бо адным выдаткавалі 140 працэнтаў, а іншыя атрымалі толькі 60. Сітуацыя няроўная. Што тычыцца выплаты зарплаты — хай выбачае мяне калектыў "ЗЮ". У апраўданне кепскага становішча магу сказаць, што супрацоўнікі выданняў, якія фінансаваліся праз выдавецтва "Полымя", не атрымлівалі зарплату паўтара месяца. Дарэчы, і супрацоўнікам апарату міністэрства ў гэтым месяцы таксама затрымліваюцца выплаты зарплаты. Сітуацыя для ўсіх аднолькавая: калі ёсць грошы ў бюджэце, тады ўсе атрымліваюць зарплату, калі не — і мы не выключэнне.

**Наш кар.**

# КОМПАС "КУЛЬТУРЫ"

- **19 чэрвеня** Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі "Вольная сцэна" паказаў у Варшаве два спектаклі "Барбара Радзівіл" па п'есе Р. Баравіковай. Першы спектакль адбыўся ў Каралеўскім Палацы, дзе зараз знаходзіцца музей польскіх каралёў, другі — на сцэне тэатра "На Волі". Паездка адбылася дзякуючы фінансавай падтрымцы "Прыорбанка". Запрасіў тэатр на гастролі варшаўскі тэатр "На Волі".
- **26 чэрвеня** ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбылося адкрыццё выставы жывапісу У. Кожуха.
- **30 чэрвеня** ў Бранску пачнуцца гастролі Дзяржаўнага акадэмічнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага.
- **30 чэрвеня** Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі "Вольная сцэна" па запрашэнні ўлад г. Вілейкі выступіць перад жыхарамі горада са спектаклем "Рычард III" У. Шэкспіра.
- **Чэрвень.** У сярэдзіне месяца ансамбль "Класік-авангард" вярнуўся з Германіі, дзе браў удзел у Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі. Зараз ансамбль рыхтуе новую праграму на наступны канцэртны сезон і да фестывалю сучаснай музыкі, што адбудзецца ў снежні ў Мінску і Віцебску.
- **1-2 ліпеня** ў Мядзельскім раёне адбудзецца Рэспубліканскае свята песні "Пеўчае поле", прысвечанае 50-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. У рамках свята Беларускі інстытут праблем культуры плануе правесці пасяджэнне рэспубліканскага савета дырэктараў абласных навукова-метадычных цэнтраў народнай творчасці па праблеме развіцця харавога мастацтва ў Беларусі.
- **4-6 ліпеня** ў Мінску адбудзецца пасяджэнне Змешанай Беларуска-Германскай камісіі па культурным супрацоўніцтве, створанай згодна з пагадненнем паміж урадамі Рэспублікі Беларусь і Федэратыўнай Рэспублікі Германія ад 3 сакавіка 1994г. Мэта пасяджэння — падвядзенне вынікаў абменаў, якія адбыліся ў рамках пагаднення, і выпрацоўка рэкамендацый па далейшым культурным супрацоўніцтве.
- **4-13 ліпеня** ў Мінскім раёне адбудзецца традыцыйны Міжнародны фестываль фальклору "Жыцень".

**Інфармкультура. Нацыянальная бібліятэка Беларусі.**

# НЕ ЗВЯРТАЙЦЕ ЎВАГІ НА ТОЕ, ШТО ВЫ НЕ "У СВЯТЛЕ"...

Фразы, якія гучалі ў часы генеральнага прагону ў тэатральнай зале кінатэатра "Масква", могуць і не ўспрымацца па-за кантэкстам месца і часу дзеяння. Месцам дзеяння быў тэатр-студыя кінаакцёра, у якім выпускнікі школы-студыі акцёрскага майстэрства Беларускай гільдыі акцёраў кіно рыхтаваліся да здачы дзяржаўных экзаменаў па спецыяльнасці "акцёр тэатра і кіно". Тым, хто знаходзіўся ў той час у зале, было зразумела, чаму рэпліка выкладчыцы Людмілы Мацкевіч да артыстак — "Не звяртайце ўвагі на тое, што вы не ў святле. Анатоль Канстанцінавіч вас абавязкова знойдзе" — выклікала шмат розных эмоцый... асабліва ў студэнтаў...

Анатоль Канстанцінавіч Цярпіцкі разам з Ігарам Сцяпанавым сумяшчалі розныя ролі: і выкладчыкаў, і мастацкіх кіраўнікоў, і пераносчыкаў мэблі...

А наогуле, усё было, "як у вялікіх", з сапраўднымі трывогамі і роспачу ад таго, што ўсё можа не атрымацца з-за мноства розных дробязей. Знешні спакой трымалі дзве самыя элегантныя жанчыны: прэзідэнт Беларускай гільдыі акцёраў кіно, в.а. дырэктара школы Святлана Сухавей і выкладчык "майстэрства акцёра", заслужаная артыстка РБ Таццяна Назар'еўна Аляксеева...

Але, як часта адбываецца ў тэатральным жыцці, усе праблемы аказаліся вырашанымі, дробязі зніклі, і дзяржаўныя экзамены адбыліся. На сваім апошнім галоўным экзамене студэнты прадставілі вялікую разнастайную праграму, у якую ўвайшлі: "Аркестр" Ж.Ануя, урыўкі з "Жаніцьбы" Гогаля, і "Утаймаванне свавольніцы" Шэкспіра, фрагменты тэатральных кампазіцый "Зона адчужэння". Школа-студыя акцёрскага майстэрства, якую ў 1992 годзе заснавала Беларуская гільдыя акцёраў кіно — адзіная навучальная ўстанова такога кшталту на тэрыторыі СНД. Яна ўзнікла не па дзяржаўным рашэнні, а па ініцыятыве гільдыі. Дапамогу ў арганізацыі першай недзяржаўнай школы аказалі і дзяржаўныя структуры рэспублікі: Міністэрства адукацыі і навукі, Міністэрства культуры і друку. Грашовую дапамогу атрымалі ад спонсараў, якія адразу паверылі ў саму ідэю: фірмы "Красіка", "Дайнова", фонду Сораса па праграме "Абнаўленне гуманітарнай адукацыі ў Беларусі".

Але унікальнасць гэтай школы не толькі ў тым, што яна недзяржаўная і платная. Упершыню за шмат гадоў з'явілася сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова з сур'ёзнай падрыхтоўкай акцёраў, якія маглі б працаваць і ў тэатры і ў кінематографе, валодаючы спецыфікай гэтых відаў мастацтва. У праграме школы разам з такімі абавязковымі тэатральнымі прадметамі, як "сцэнічная мова" і "сцэнічны рух", выкладаюцца "асновы кінамастацтва", "гісторыя сусветнага кінематографа", "каскадзёрскае майстэрства"... Таму і на дзяржаўных экзаменах разам з тэатральнымі пастаноўкамі студэнты падрыхтавалі праграму пад назвай "Клас-канцэрт", у якой яны прадэманстравалі валоданне метадам кінаназірання за рознымі "зоркамі" сусветнага кінематографа і эстрады... І менавіта ў гэтым аддзяленні студэнты аказаліся больш раскаванымі, пластычнымі, эмацыянальнымі...

Атмасфера ў глядзельна-тэатральнай зале была ў меру ўрачыстай і добразычлівай. Шкада толькі, што гэту святочную атмасферу, якая ўзнікла ад прысутнасці шэрагу маладых таленавітых акцёраў, не адчулі нашы айчынныя кінарэжысёры... "Паглядзіце, хто прыйшоў!" Шкада, што вас не было разам з намі.

**Галіна ШУР**

*На здымку: Н.Еўтух і С.Мініч у сцэне са спектакля "Жаніцьба".*



СІТУАЦЫЯ

# ПРАДБАЧЫЛІ...

***Чалавек, які жыве на птушыных правах і не здольны адбудоўваць самастойна свой лёс, засцярожана глядзіць у будучыню. Мо гэта адна з праяў песімізму? Хто ведае...***

***... А калі гэты чалавек — беларус?***

***Мы не былі песімістамі. Газеце, створанай амаль чатыры гады таму з надзеяй на Адраджэнне, быць песімістычнай недаравальна. Але дазвольце мне працягнуць сваю думку трохі ніжэй.***

***Тры тыдні наш штотыднёвік нароўні з іншымі беларускамоўнымі выданнямі ("ЛіМ", "Голас Радзімы", "Дзеці і мы", "Наша слова") не даходзіў да сваіх чытачоў. А колькі ўсяго змянілася за гэты непрацяглы быццам бы час! Ды толькі адсталымі ад жыцця нас назваць нельга. Многае, што адбываецца сёння, мы прадбачылі раней і падкрэслівалі ў сваіх журналісцкіх артыкулах. Прадбачылі, але выступаючы ў ролі своеасаблівых прарокаў, да канца не верылі, што ГЭТА на самой справе ТАК і будзе. Прадбачылі — і тым самым як бы апярэджвалі падзеі.***

***Зараз вельмі модна прыводзіць вытрымкі з выданняў, што выходзілі ў 17-м, 37-м ды 53-м. Я ж гартаю падшыўку СВАЁЙ "Культуры" за апошнія дзесяць месяцаў. Нашым чытачам была зразумелая і вядомая пазіцыя аўтарскага калектыву штотыднёвіка. А таму, як той казаў, з песні слова не выкінеш.***

### ВЕРШНІК У КРАТАХ

"Пагоню" здымалі з фасада Дома ўрада дзесьці а шостай гадзіне вечара. Падагналі аўтакран, грузавік. Групка пралетарыяў колькі хвілін памітусілася на даху некалі першага будынка рэспублікі і вершнік паволі пачаў спускацца на зямлю. Усё было амаль так, як дзесяць месяцаў таму. З дакладнасцю наадварот.

Пад націскам ветру былы герб час ад часу паварочваўся да прахожых сваім адваротным бокам, і сталіся бачныя своеасаблівыя перагародкі, што былі сканструяваныя аўтарам, мабыць, для мацавання выявы да сцяны.

... А мне падалося раптам, што "Пагоня" была ў кратах.

Разважаючы ў № 33 нашай газеты (1994 г.) аб тым, як "магутны герб узняўся з небыцця", мы выказвалі шчырае спадзяванне "дачакацца б, калі ўзнімецца да вяршыні Дзяржаўнасці нашая з вамі нацыянальная годнасць..." Шматкроп'е, на жаль, пакуль застаецца, як, зрэшты, і пытанне аб нацыянальнай свядомасці.

Затое, калі 28 кастрычніка стары сярпаста-малаткасты бээсэсэраўскі герб на будынку КДБ, што на праспекце Скарыны, "прыкрылі" "Пагоняй" (№ 45, 1994 г.) і адсюль у яе з'явілася своеасаблівае атачэнне, мы зразумелі, што "той, стары герб пакінулі (а ці не да "лепшых" часоў?) па традыцыі, якая ўжо пачала ўсталёўвацца. "Пагоня" — гэта, маўляў, нешта часовае, як адчэпка перад грамадствам, а той, з пяціканцовай зоркай — родны".

І часы лепшыя не надышлі, і вершнік апынуўся за кратамі.

"Сталіца Беларусі. Помнік Леніну на плошчы імя Леніна. ("Сон у зімовую ноч, альбо Быць ці не быць параду слёз", № 8, 1995 г.) На фасадзе Белага Дома ўжо не скача ваяўнічы вершнік, замест "Пагоні" зноў даспяваюць хлебныя каласкі".

Нашыя сны пачынаюць спраўджвацца. "Толькі бронзавы Ленін ("Пуста на плошчы", № 33, 1994г.) стаіць на варце сваіх ідэй у раздзёртай ідэямі краіне". "Злавесныя цёмныя постаці першага стваральніка нечуванай па жорсткасці сістэмы ("Настальгія па куміры", № 45, 1994 г.), здаецца, па-сапраўднаму кідаюць на нашу зямлю нейкія цені бяды і спаралізаванасці, а нашыя збяднелыя кабеты, што з фанатычным бляскам у вачах нясуць чырвоныя палотнішчы, нібыта і сапраўды інвальтаваныя іншым, не тутэйшым вымярэннем, у якім кроў і попел, нялюдскасць і азвярэнне да асноў быцця".

Большасць з нас так і не паспела адысці ад доўгага летаргічнага сну ці, наадварот, зноў залягла ў працяглую спячку.

### ПАЧАКАЕМ?

Беларускім дзеткам падабаецца быць на Беларусі дысідэнтамі. Такую думку, патэлефанаваўшы ў рэдакцыю, выказала настаўніца адной са сталічных школ. Асабліва, сказала яна, пачуццё нацыянальнага гонару абудзілася пасля абнародвання вынікаў рэферэндуму, ініцыяванага прэзідэнтам. Паміж сабой спрабуюць размаўляць на роднай мове, скупляюць у газетных шапіках значкі з былымі нацыянальнымі сімваламі, а на футбольных матчах і рок-канцэртах размахваюць бел-чырвона-белымі сцягамі. Я магу гэта пацвердзіць, як і тое, што на свае вочы бачыў некалькі тусовак падлеткаў з намаляванымі на шчоках невялічкімі бел-чырвона-белымі сцяжкамі. Яны мне прызналіся: "Мала, што мы адчуваем сябе беларусамі, дык мы хочам, каб гэта бачылі і іншыя".

Узгадваючы ў № 44 (1994 г.) аб дзейнасці адзінай беларускай школкі ў сталіцы, мы не беспадстаўна (падумаць толькі — на чацвёртым годзе незалежнасці!) задаваліся пытаннем: што гэта за з'ява такая — школа будучага ці ўсё ж своеасаблівая рэзервацыя? Як бы нам ні было крыўдна, схіляліся да апошняга. Няўжо і сапраўды беларуса на Беларусі ўжо сёння заганяюць у "Закрытае грамадства" (№ 46, 1994 г.)? "Няхай не ў тэрытарыяльным сэнсе — дык у духоўным, культурным." У адносінах да апошніх падзей яшчэ дадам і... у моўным.

Да нядаўняга часу, прынамсі, да таго, дзевятага нумара нашага штотыднёвіка за бягучы год, калі быў змешчаны артыкул Алесі Клімовіч "Пяць гадоў упартага змагання" (з нагоды пятых угодкаў Закону аб мове), мы верылі ў народныя



прыкметы. І калі "дзіця дасягнула пяцігадовага ўзросту — будзе жыць, якім бы кволым яно ні было". Цяпер, гледзячы на сённяшняе стаўленне падрастаючага пакалення да роднай мовы і нацыянальнай сімволікі, можна пераканацца, што і тут мы не памыліліся.

Пачакаем?

### НАМАЛЮЙ МНЕ БЯРОЗКУ - 2

У сярэдзіне 70-х у "ЛіМе" быў змешчаны журналісцкі артыкул аб гісторыі канфлікту, які адбыўся паміж багатым заказчыкам, старшынёй калгаса, і прафесійным мастаком-афарміцелем. Шырокія творчыя погляды апошняга не адпавядалі самазадаволенай абмежаванасці першага. І ў той час заможны непрафесіянал дыктаваў беднаму прафесіяналу. Багаты князёк-аграрый загадваў беднаму мастаку. Вось чаму той даўні лімаўскі артыкул выйшаў пад назвай "Намалюй мне бярозку".

Так, усё гэта мы ўжо праходзілі і неаднаразова. Ды і прыкладаў падобных можна прывесці процьму. З дзён апошніх — таксама. Толькі яшчэ ў больш буйных маштабах.

"... Эксперыменты над народам і яго мастацтвам становяцца традыцыяй... Сярод гістарычнага смецця знойдзецца месца для асоб з флюгерам у кішэні".

Гэта зноў былі мы. Радкі, узятыя з артыкула, што атрымаў вялікі рэзананс сярод чытацкай аўдыторыі "Росчырк флюгера" (№ 51, 1994 г.) аб навіслай пагрозе закрыцця мастацкага цэнтра на Беларусі — прыватнай віцебскай галерэі "У Пушкіна".

Мы прадбачылі "асоб з флюгерам у кішэні" (у кантэксце таго артыкула М.Баразны ўзгадваецца ржавы флюгер у выглядзе пяцікутнай зоркі, які да нядаўняга часу "ўпрыгожваў" старажытны помнік беларускага барока — Віцебскую ратушу).

... Гэта ўжо пасля двойчы з'явілася на Беларускім ТБК сумна вядомая "Нянавісць...", дзе новая ідэалагічная крытыка агнём прайшлася па літаратарах, мастаках, музыках толькі за тое, што іхнія перакананні не падыходзяць уладам.

... Гэта ўжо пасля "Нянавісці" некалькі мастакоў, сябры суполкі "Пагоня" апынуліся пад пагрозай выключэння з пэўнай творчай майстэрні, бо "запляміці" сябе перад ідэалагічнай цэнзурай. З гэтай жа прычыны кампазіцыі беларускіх рок-гуртоў "Палаца", "Крамы", "Новага неба" і гімн "Магутны Божа" не гучаць у эфіры на другім нацыянальным радыёканале. Толькі, даруйце, прычым тут Бог?!

... Гэта ўжо пасля рэферэндуму "ЗЮ" — рускамоўная, некалі незалежная, адна з вядучых маладзёжных газет, пачала "верноподданнически" дзяўбці беларускамоўныя выданні, што вымушаны былі часова прыпыніць свой выхад у свет. Ці аб такой салідарнасці журналістаў мы марылі, калі нарэшце ў нас у верасні 1994 года з'явілася сваё прафесійнае свята — Дзень беларускага пісьменства і друку?! Тады мы ні аб чым не марылі. Але прадбачылі... Уступіўшы ў дыялог з вядучымі журналістамі беларускіх выданняў ("Мёртвая дзея з мёртвай ідэі", № 35, 1994 г.)

Ужо за колькі месяцаў да нашага сёлетняга вераснёўскага свята ў журналісцкім асяродку лёталі пагалоскі пра спыненне, перапрафіляванне, аб'яднанне беларускамоўных выданняў. У сувязі з гэтым прыгадваецца размова з кандыдатам мастацтвазнаўства, супрацоўнікам часопіса "Спадчына" Вячаславам Ракіцкім "Мы не заклікаем перасоўваць межы" (№ 52, 1994 г.), падчас якой ён выказаў занепакоенасць тым, што сёння "ў нашай краіне, калі, пачынаючы з самых вярхоў, топчацца мова, гісторыя і культура народа, калі пануе невуцтва: "Сапега — наш сучаснік", трэба нам усім аб'яднацца <...> і адстойваць у рэшце рэшт свае права мець магчымасць казаць праўду".

### МЫ НЕ ВЫБІРАЛІ, НАС НЕ ВЫБІРАЛІ

56 працэнтаў насельніцтва Беларусі прыняло ўдзел у другім туры выбараў. Зараз мы маем 119 дэпутатаў беларускага парламента, большасць з якіх — аграрыі, камуністы, служачыя выканкамаў, адміністрацыя прэзідэнта і дырэктары прадпрыемстваў. Мы і перад першым турам ужо здагадваліся, якімі будуць вынікі рэферэндуму. Спрабавалі аналізаваць і прагназаваць, аперыруючы фактамі як сваёй, так і сусветнай гісторыі. Толькі за абарону ідэі беларускасці на журналістаў абрынуўся шквал абвінавачванняў у распальванні міжнацыянальнай непрыязі. Разам з тым, мы праходзілі шматлікія "іспыты на выжыванне" (№ 19, 1995 г.). "Самая працаздольная частка насельніцтва засталася ўбаку, а дамаседы, ветэраны апантана імчаліся на выбарчыя ўчасткі." Мы наўмысна змянілі ў цытаце з артыкула Сержука Мінскевіча будучы час на мінулы, бо сэнс застаўся той жа.

Цяпер, пасля другога тура можна ганарыцца (№ 11, 1995 г., "Суверэнітэт..."), што мы зноў — першыя, бо "самыя апалітычныя і люмпенізаваныя з усіх постсавецкіх нацый"...

**Замест P.S.**

**Хацелася б, аднак, спадзявацца, што астатнія "прадказанні" "Культуры" ўсё ж не спраўдзяцца, так і застаўшыся фактам залішніх хваляванняў журналістаў, надрукаваных у перыёдыцы. Хай не знойдзецца для іх месца ў нашай чарговай справаздачы...**

**Справаздачу трымаў Міхась РАВУЦКІ**

ЗГАДАЕМ

# "ПРАЦАВАЛІ І ЎДЗЕНЬ І ЎНАЧЫ"

***У той ясны, па-веснавому шумлівы, сонечны і вясёлы дзень 8 траўня віцебскія вуліцы былі запоўненыя натоўпам болей, чым звычайна. Але асаблівае ажыўленне панавала ў скверы па вуліцы Гараўца. З усіх бакоў публіка, апранутая па-святочнаму, з букетамі кветак спяшалася сюды, дзе чакалася адкрыццё помніка слаўнаму земляку, Герою Савецкага Саюза, легендарнаму лётчыку-знішчальніку Аляксандру Гараўцу.***

***Цырымонія адкрыцця сталася адным з кульмінацыйных момантаў ланцуга юбілейных святаў, якімі Віцебск адзначаў 50-годдзе Вялікай Перамогі. Сотні людзей узялі ўдзел у гэтым хвалюючым акце, і сярод іх — пяць сясцёр і дачка Аляксандра Канстанцінавіча, блізкія сваякі героя, "айцы" горада і вобласці, ветэраны вайны і школьнікі, рабочыя і вайскоўцы, творчая інтэлігенцыя. Спявала музыка, купаючыся ў дынамічных і магутных формах адлітага ў метал лётчыка, што ляціць у Бессмяротнасць...***

***Аўтары мемарыяла выбралі адзіна правільны аспект — драматычны, прадставіўшы яго на тым мастацкім узроўні, які кранае сэрца, прымушае спачуваць, пярэчыць ці пагаджацца. У дакладнай, лагічна завершанай сяміметровай кампазіцыі з сілумену — празрыстасць метафары: супрацьстаянне дзвюх сілаў, ужо знішчаных варожых самалётаў-крыжоў і няўрымслівага чалавечага духу ў вобразе лётчыка, эмацыйна напоўненага і па-свойму канцэптуальнага. Бо А.Гаравец — не толькі канкрэтны герой, які збіў на Курскай дузе дзевяць гітлераўскіх бамбардзіроўшчыкаў і акумуляваў духоўную энергію подзвігу, але і сімвал усіх савецкіх лётчыкаў, што загінулі ў небе Другой сусветнай вайны.***

***... Майстэрня па вуліцы Сурганава, 42. Пасярод — імправізаваны "круглы стол", ля якога сабраліся гаспадар майстэрні, кіраўнік аўтарскага калектыву скульптар Анатоль Арцімовіч, ягоны памочнік і сааўтар скульптар Міхась Інкоў, майстар мастацкага ліцця, скульптар Міхась Канцавы і я. На жаль, не змаглі прыехаць архітэктары Валерый Рыбакоў і Ігар Лапуноў. Яны — віцябляне.***

**А.Арцімовіч:** Менавіта ад Рыбакова, галоўнага мастака Віцебска, мы атрымалі прапанову аб стварэнні помніка А.Гараўцу. Гэта было... шэсць гадоў таму.

**М.Інкоў:** Тады мы і зрабілі першы эскіз помніка. Натуральна, была зроблена вялікая папярэдняя праца па вывучэнні матэрыялаў аб жыцці і подзвігу лётчыка.

**А.А.:** У той год у выдавецтве "Беларусь" выйшла дакументальная аповесць аб Аляксандру Гараўцу "У паядынках на вышыні", якая нам вельмі дапамагла. Але, на жаль, тады наш эскіз помніка так і застаўся эскізам. Па незалежных ад нас прычынах помнік А.Гараўцу ў Віцебску не адбыўся. Хаця творчыя сувязі з гэтым цудоўным горадам у нас не перапыняліся. Прынамсі, мы сталі пераможцамі конкурсу на лепшы праект помніка воінам-афганцам. Мы таксама прапаноўвалі аб'ёмную эмблему для шпіля Пеўчага поля, дзе праводзяцца фестывалі "Славянскі базар". Мы хацелі рэканструяваць сквер з помнікам героям 1812 года на Успенскай горцы. Пятнаццаць гадоў я працаваў над праектам манумента Працы для Наваполацка. Іншая справа, што, на жаль, ні адзін з праектаў не быў рэалізаваны.

***Анатоль АРЦІМОВІЧ.** Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1966), вучань А.Бембеля. Адзін з аўтараў мемарыяла Славы ў Алматы, прысвечанага 28 героям-панфілаўцам, манумента "Курган Славы" на 21-м кіламетры шашы Мінск — Масква, Галоўнага ўваходу мемарыяла "Брэсцкая крэпасць-герой". Аўтар помніка полацкай княгіні Рагнедзе ў Заслаўі. З 1966 года выкладае ў Беларускай акадэміі мастацтваў, выконваючы абавязкі дацэнта. Сярод ягоных выхаванцаў — сёння шырока вядомыя скульптары А.Гваздзікаў, І.Казак, А.Дранец, В.Янушкевіч, С.Гумілеўскі, П.Лук, М.Інкоў.*



**М.І.:** Акрамя таго, мы двойчы з Анатолем Яфімавічам удзельнічалі ў конкурсе на лепшы праект мемарыяла на Паклоннай гары ў Маскве, і аднойчы — Арцімовіч удзельнічаў самастойна. Хачу яшчэ распавесці аб цікавым факце з біяграфіі майго настаўніка. У свой час ён прапанаваў для Смаленска ідэю помніка А.Т.Твардоўскаму разам з ягоным героем Васілём Цёркіным. Потым смаляне аб'явілі конкурс, і ў рэшце рэшт помнік з'явіўся. Аўтары былі іншыя, але самае дзіўнае тое, што ў аснову гэтага помніка лягла канцэптуальная і пластычная ідэя Арцімовіча!

***Міхась ІНКОЎ.** Скончыў архітэктурны факультэт БПІ (1976) і скульптурны факультэт Беларускай акадэміі мастацтваў (1993). Дыплом быў прысвечаны беларускай праваслаўнай святой — Соф'і Слуцкай. На пятым курсе ён выканаў помнік Кірыле Тураўскаму ў горадзе Тураве. Аўтар партрэтнага бюста паэткі Ларысы Геніюш.*

**А.А.:** Словам, з такім вось творчым нерэалізаваным багажом мы і ўступілі ў 1995 год. Год гэты для нас шчаслівы. Штуршком да рэалізацыі нашай даўняй мары пра помнік А.Гараўцу зрабіўся ліст сясцёр героя у Кастрычніцкі раённы савет Віцебска з просьбай увасобіць вобраз іхняга брата, які здзейсніў унікальны подзвіг. Здавалася б, сёння не да помнікаў: эканамічны крызіс, цяжкія сацыяльныя праблемы. І ўсё ж кіраўнікі райсавета Аляксандр Сяргеевіч Суханаў і Мікалай Рыгоравіч Андрэеў знайшлі магчымасці для рэалізацыі высакароднай ідэі стварэння мемарыяла земляку. Вялікі ім дзякуй! Пакуль ля штурвала дзяржавы, вобласці, горада, раёна такія людзі, культура наша, нашая духоўнасць не загіне. Аднак нас чакала неверагодная цяжкасць — зрабіць помнік абавязкова да дня Перамогі. Часу не хапала...

**М.І.:** За два з нечым месяцы трэба было выканаць рабочую мадэль у памеры збудавання, каркасныя працы, пракладку, адліўку, устаноўку і г.д.

**А.А.:** Ужо да канца лютага мы адпрацавалі эскіз, выканалі рабочую мадэль, а на пачатку сакавіка ўжо пачалі яе павелічэнне. Скульптурны цэх ММВК рабіў усе каркасныя працы і пракладку. Але, канешне, асноўны цяжар лёг на Мішу Канцавога. Практычна ад яго залежала: быць помніку да 9 траўня ці не быць.

***Міхась КАНЦАВЫ.** Скончыў скульптурнае аддзяленне Мінскай мастацкай вучэльні (1976). Удзельнік многіх мастацкіх выстаў. У 1987 годзе стварыў фірму маста-*

# "МЫ БЫЛІ МОЦНЫЯ ДУХАМ..."

Вядомы філосаф-псіхіятр Зыгмунт Фрэйд пісаў некалі, што чалавеку ўласціва хутка забываць усё благое і памятаць доўга пераважна добрае.

Фрэйд забыўся, аднак, дадаць, што благое і добрае ўспрымаюцца людзьмі па-рознаму. І нават могуць увогуле мяняцца сваімі месцамі: што для аднаго будзе добра, другому — блага, і наадварот. Так і цяпер. У нашым няшчасным, палярна палітызаваным грамадстве ацэнкі падзеяў апошняй вайны — з нямецкім фашызмам — гранічна палярызаваліся.

А ўжо пра партызанскую вайну на Беларусі як пра нацыянальна-вызваленчую дык і размовы быць не можа. Як, маўляў, можна думаць, што беларусы, гэты рахманы, талерантны народ, які, паводле некаторых наваспечаных палітыкаў "вообще без России не может", ды раптам сталі аказваць узброенае супраціўленне адладжанай нямецка-фашысцкай ваеннай машыне, перад якою ў 1941 годзе ганебна бегла аж да самай Масквы хвалёная інтэрнацыяналісцкая Чырвоная Армія! Ды такое супраціўленне, у выніку якога было вызвалена ад захопнікаў каля шасцідзесяці працэнтаў тэрыторыі Беларусі і за якое яна, не будучы яшчэ нават суверэннай дзяржавай, была ўведзена ў склад краін-заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый!

А так яно ў сапраўднасці і было. Таго не адмаўляе, зрэшты, і савецкая афіцыйная гістарыяграфія. Беларускі народ выставіў супраць фашысцкіх захопнікаў трохсотшасцідзесяцітысячную партызанскую армію, якая трымала пад сваім кантролем амаль што ўсе іх тылы і тылавыя службы. І ўтварылася тая армія пераважна ў сярэдзіне ваенных гадоў, менавіта тады, калі стала ясна, што прынесены пад знакам свастыкі новы парадак яшчэ страшнейшы за той, які быў тут пад сярпом і молатам. Утварылася зусім не пад "испытанным руководством партии большевиков", а пераважна знізу, стыхійна, як неўсвядомлены яшчэ, можа, добра пратэст беларускага народа супраць спробы парабачэння і знявагі яго чалавечай і нацыянальнай годнасці. Афіцыйныя спробы арганізацыі партызанскага руху на захопленых тэрыторыях рабіліся па ініцыятыве самога Сталіна яшчэ ў сорак першым годзе, але яны ні да чаго, як вядома, тады не прывялі. Вось што пра тое піша, напрыклад, выдадзеная ў Мінску ў 1983 годзе кніга "Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны": "Однако не все созданные в начале войны отряды и группы смогли выполнить свою задачу. Часть из них не сумела закрепиться на оккупированной территории и отошла вместе с войсками Красной Армии (мы добра памятаем, што гэта быў за "отход". — **М.К.**), другие были рассеяны при переходе линии фронта или в первых боях, и сведений о судьбе большинства из них в архивных материалах не обнаружено" (с.4). І толькі пасля, у 1943 годзе, беларускі партызанскі рух быў цвёрда ўзяты пад камандаванне з Масквы. У ім актыўна сталі насаджацца савецкія парадкі: быў уведзены інстытут камісараў, даўно зліквідаваны ў рэгулярнай арміі, спрабавалі завесці нават сумна вядомыя асобныя аддзелы.

Мне не раз ужо даводзілася пісаць, як дрэнна забяспечвалі, напрыклад, нас, заслонаўцаў, зброяй, боепрыпасамі і медыкаментамі. К 1943 году, калі імклівы наступ нямецкіх часцей так ці гэтак, але быў прыпынены, гэта можна было б рабіць у больш значных памерах, разумеючы стратэгічную важнасць наяўнасці такой вялікай і адборнай арміі (у партызаны ж ішоў не кожны) у тыле ворага.

Але тое не рабілася. Вось і прыходзілся процістаяць узброенаму да зубоў праціўніку з іржавымі вінтоўкамі, знойдзенымі на месцах былых баёў, ды кулямётамі ДТ, знятымі з кінутых савецкіх танкаў, зрэшты, зусім нядрэннымі. Хранічна не хапала патронаў, а тол прыходзілася часта выплаўляць на кастры з 152-міліметровых снарадаў, рызыкуючы ўласным жыццём. У суседняй брыгадзе Аляксея Данукалава такі начынены толам пудовы "парсюк" так ірвануў аднойчы, што ад бедных хлопцаў засталося толькі некалькі абсмаленых крывава чорных шматкоў. І гэта пры наладжанай радыёсувязі і магчымасці дастаўкі патрэбных нам грузаў з дапамогай славутых "кукурузнікаў" з наступным скідваннем тых грузаў на парашутах! Тое часам рабілася, але ж вельмі і вельмі рэдка. Таму ў баі нам прыходзілася нялёгка: вораг, заклаўшы ў свой знакаміты МГ-34 даўжэзную стужку на 250 патронаў, літаральна засыпаў нас рознакаляровымі ланцужкамі трасіруючых, ды яшчэ часам і разрыўных куль, кожная з якіх несла пакутлівую смерць. Нам заставалася толькі злосна агрызацца кароткімі чэргамі ды бабаханнем паасобных вінтовачных стрэлаў.

У маім атрадзе прыблізна на дзвесце байцоў мелася чатырнаццаць лёгкіх кулямётаў, каля чатырох аўтаматаў ППШ, астатнія вінтоўкі ўсё такога ж "мясцовага" паходжання. Мы ўяўлялі сабою ў прынцыпе даволі моцную баявую адзінку, але з-за вечнага недахопу патронаў былі здольныя толькі на кароткі, хоць і інтэнсіўны, удар, пасля якога змушаныя былі заўсёды адыходзіць. А такой эфектнай зброі, як лёгкі пяхотны мінамёт, якіх было поўна ў праціўніка і якімі ён дастаўляў звычайна нам нямала непрыемнасцей, дык і ўвогуле не было.

Але самае цяжкае было з параненымі. Мой сябра і зямляк па вёсцы Арлоўшчына Аршанскага раёна Жэня Лавянецкі (дай Бог яму здароўя, калі яшчэ жывы) быў паранены ў нагу і двойчы пражыў блакаду. Першы раз яго давялося пакінуць у знакамітым Купавацкім лесе, закапаўшы ў балоце, і немцы не знайшлі яго, хоць і прачэсвалі той лес даволі шчыльным строем. Другі раз ён "уліп" недзе пад Лепелем, дзе зноў жа амаль цудам уцалеў. І толькі ў трэці раз нам удалося перавезці яго ў складзе цэлага абозу з шаснаццаці фурманак з такімі ж бедалагамі ў раён брыгады Лабанка каля Ушач. Там быў партызанскі аэрадром, адкуль яго вывезлі, нарэшце, у савецкі тыл. Многія параненыя паміралі з-за недахопу лекаў (адзінае, чаго больш-менш хапала, здаецца, у нашых мілых лекарак, дык гэта рыванолу ды чырвонага стрэптацыду). Заставаліся і інвалідамі. Такі няшчасны лёс спасцігнуў і мяне пасля ранення ў баі каля вёскі Галавачы Сенненскага раёна. Калі ў сорак чацвёртым пачаўся тыф, то становішча стала зусім крытычным. Хворых тыфам, згодна з загадам з Цэнтра, на Вялікую зямлю, як тады называлі савецкі тыл, не бралі ўвогуле, і ўсе няшчасныя пагалоўна загінулі ў часе вядомай страшнай блакады каля возера Палік.

Тады гэта, у часе самой вайны, успрымалася намі, як нешта зусім звычайнае: ідзе вайна, якія могуць тут быць прэтэнзіі? Але калі пазней, ужо пасля шпіталю, я "загрымеў" за калючы дрот ў спецлагер НКУС № 120 у горадзе Калініне, нягледзячы на свае раны і калецтвы, калі пазней мне не прысвоілі аніякага

ЗГАДАЕМ

*цкага ліцця "Адраджэнне рамёстваў", на рахунку якой дзесяткі буйных прац, у тым ліку адліўка помніка Я.Драздовічу, надмагіллі У.Караткевіча, А.Бембеля, рэканструкцыя Нясвіжскага парку, працы па афармленні станцый метро "Трактарная" і "Першамайская".*



**М.КАНЦАВЫ:** На плечы маёй брыгады ліцейшчыкаў ляглі ліццё, зборка, каркас, чаканка, таніроўка, мантаж і ўсталёўка помніка на месцы. Працавалі літаральна ўдзень і ўначы: адчувалі вялікую адказнасць і жаданне зрабіць твор на вялікім прафесійным узроўні. І, безумоўна, трэба было захаваць годную марку маёй фірмы. А адначасова ў Віцебску пад кіраўніцтвам В.Рыбакова вяліся працы па ўпарадкаванні сквера, рыхтаваўся падмурак і гранітны пастамент для помніка.

**А.А.:** Праца падаравала нам усім вялікую радасць і задавальненне, нягледзячы на вялікія цяжкасці і кароткі тэрмін. Гэта сапраўды калектыўная праца, кожны член групы з гонарам выканаў сваю дзялянку працы.

**М.І.:** Такім чынам, гэты помнік з'явіўся, па сутнасці, першай рэалізаванай частачкай нашых шматгадовых задумаў, магчыма, гэта дзесятая частка ўсяго, што намі было задумана, але не было здзейснена.

**А.А.:** Адкрыццё помніка... У маім жыцці гэта было, мабыць, самае "чалавечнае" адкрыццё — не пампезнае, не шыкоўнае, не афіцыйнае. Менавіта — чалавечнае. Людзі прыйшлі сюды па закліку душы, не чыталі па паперцы, а казалі ад чыстага сэрца. А побач — дзіўная, кранаючая і жывая сувязь часоў, сувязь пакаленняў — родныя сёстры Аляксандра Канстанцінавіча, ягоная дачка Інга. Дзякуй лёсу, што падараваў нам гэты цудоўны дзень.

***Такім чынам, мемарыял адкрыты. Ён зараз працуе на людзей і ў імя людзей. Помнік сапраўды цудоўны. Ён стварае вакол сябе асаблівае поле прыцягнення, асаблівы мікраклімат, які "ўцягвае" ў сябе гледача, авалодвае ягонымі думкамі, пачуццямі, спараджае "водгук душы", дзякуючы чаму і ўзнікае гэты самы цуд, які і завецца Мастацтвам.***



**Матэрыял падрыхтаваў Барыс КРЭПАК**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ТРЫ БЯРОЗКІ
## (Быль)

З вагонаў выходзілі пажылыя сівагаловыя мужчыны — ветэраны Вялікай Айчыннай. Кожны з іх у баях за горад Брэст пакінуў часцінку свайго сэрца, і таму такімі моцнымі былі пры сустрэчах абдымкі і поціскі рук.

З самага пачатку нейкі непакой не пакідаў былога гвардыі яфрэйтара Грыневіча. Адразу на вакзале ён папрасіў спісы тых, хто павінен быў прыехаць на сустрэчу, спадзеючыся ўбачыць там адно, такое дарагое для яго прозвішча. Куды толькі не пісаў Грыневіч пасля вайны, шукаючы гэтага чалавека, камандзіра сваёй гарматы, і ўсё безвынікова. І раптам вочы натыкнуліся на радок: "Чарот Іван Мацвеевіч". Усхваляваны, перачытаў радок яшчэ раз: так, гэта ён, яго баявы камандзір, з якім не бачыліся яны з таго самага бою, з чэрвеня 44-га...

... А было гэта недзе тут, на подступах да гэтага беларускага горада, непадалёку ад мяжы. Бо помніцца, што праз дзён пяць яны фарсіравалі раку і ступілі на тэрыторыю Польшчы. Недзе тут павінен быць той забалочаны лес і тыя тры бярозкі...

Авангардны батальён на досвітку сустрэўся з ворагам, і на ўзлеску закіпеў бой. Два знясіленыя каняکі натужліва цягнулі "саракапятку", а наводчык Грыневіч моцна трымаў у руках лейцы. Пад нагамі плюшчэла вада, колы гарматы глыбока страглі ў дрыгве, коні часта спыняліся. Тады за станіны браўся разлік. Вырваць колы з дрыгвы было вельмі цяжка, але трэба было спяшацца, каб падтрымаць агнём пяхоту.

Да ўзлеску заставалася зусім нямнога, калі над галовамі страшэнна грамыхнула: гэта разарвалася міна. Завішчалі, разлятаючыся, асколкі, затрашчалі зрэзаныя імі галіны і сучкі. Ад нечаканасці Грыневіч кінуўся на зямлю і выпусціў лейцы. Коні ўзвіліся на дыбы, ірванулі ўбок і панесліся па лесе. Камандзір гарматы Чарот кінуўся за імі. На бягу ён штосьці крычаў Грыневічу, але словы яго патаналі ў моцным грукаце. Чарот амаль што дагнаў коней, але ў гэтае імгненне велізарны слуп агню паўстаў перад імі. І Грыневіч з жахам убачыў, як выбуховай хваляю адкінула ўбок камандзіра, як у перадсмяротных сутаргах забіліся коні.

У той жа момант над галавой прасвісталі асколкі, і адзін з іх, цяжка грохнуўшы па касцы, зваліў Грыневіча на зямлю. Калі ён апрытомнеў, у галаве гудзела, а перад вачыма быццам бліскавіцы ўспыхвалі. Памацаўшы рукою каску, выявіў на ёй глыбокую ўмяціну. Хістаючыся, Грыневіч падышоў да гарматы. Яна глыбока ўпілася коламі ў дрыгву, а перадок яе апынуўся па другі бок канавы. Там ляжалі і забітыя коні.

Праз моцны звон у вушах раптам пачуў доўгі стогн і ўбачыў, што камандзір гарматы Чарот ляжыць пад дрэвам з акрываўленымі, як перабітымі рукамі. Да яго ўжо падбягаў радавы Вайноў з перавязачным пакетам. І тут Грыневіч зразумеў, што апынуўшыся бліжэй за ўсіх да коней Чарот цяжка паранены і што вінаваты ў гэтым ён, Грыневіч, бо не ўтрымаў коней, выпусціў лейцы. Зразумеў і тое, што цяпер старшым у разліку застаўся ён і трэба прымаць рашэнні. У галаве гудзела, кожнае слова давалася з вялікім намаганнем. "Радавы Рабенка, забірай камандзіра і — у медсанбат", — ціха аддаў загад. — Паведамі камбату аб нашым становішчы. Мы з Вайновым застаемся каля гарматы, паспрабуем яе выцягнуць."

Утраіх паставілі Чарота на ногі, Рабенка здаровай рукой абхапіў яго за пояс, а другой, забінтаванай, — пад пахі, і яны паціху пакрочылі ў глыб лесу. А Грыневіч з Вайновым заняліся гарматай. З цяжкасцю адцягнулі ўбок забітых коней, і, ухапіўшыся за станіны, паспрабавалі зрушыць гармату. Але тая не паддавалася. Тады Вайноў высек дзве вялікія жардзіны, і, падчапіўшы імі колы, яны паспрабавалі выштурхнуць гармату з канавы. Але тая кожны раз зноў спаўзала ўніз. Эх, каб сюды яшчэ тры-чатыры чалавекі!

Змораныя, перамазаныя гразёю, мокрыя ад поту і балотнай вады, ужо ў каторы раз браліся яны за гармату, як раптам пачулі, што вакол засвісталі кулі. Азірнуўшыся, убачылі, што па полі проста на іх у поўны рост крочаць чалавек дваццаць фашыстаў. Тыя не заўважылі байцоў, але ішлі пастрэльваючы. Так, на ўсялякі выпадак. Грыневіч і Вайноў схапілі аўтаматы і, прыгнуўшыся, пабеглі па канаве, адзін управа, другі ўлева. Калі немцы выйшлі на сярэдзіну схілу, пальнулі па іх кароткімі чэргамі. Фашысты залеглі і ўзмацнілі агонь па лесе. Але байцы білі трапна: на роўным полі кожны фашыст паўставаў выразнай чорнай плямай. Праз некалькі хвілін немцы адступілі...

Грыневіч спадзяваўся, што да іх хутка падыдзе дапамога, але чуў, што бой на тым баку лесу разгараецца ўсё мацней. Ён зразумеў: спадзявацца трэба толькі на сябе. Адпачыўшы хвіліну-другую, коратка сказаў: "За справу", і яны зноў узяліся за жардзіны.

І ў гэты момант пачулі моцны грукат і адразу ўбачылі, як на грэбень выпаўзаюць тры нямецкія танкі. Яны зразумелі: не паспеюць. "Усё, канец, — пранеслася ў галаве Грыневіча. — Вось тут і загінем, тут, пад гэтымі трыма бярозкамі"... Ён паволі падняў галаву, правёў вачыма па прыгожай зяляніне бярозак, па белых гнуткіх ствалах, і раптам быццам штосьці штурханула яго! "Вайноў, прыгінай!" — голасна крыкнуў Грыневіч і кінуў яму прывязаныя да станінаў вяроўкі. Пакуль Вайноў уцяміў, што трэба рабіць, Грыневіч ужо караскаўся на адну з бяроз. Дабраўшыся да верхавіны і напружыўшы ўсе сілы, пачаў гнуць бярозу да зямлі. Вайноў усё зразумеў. Удваіх яны хутка захліснулі вяроўкамі ўсе тры бярозкі, прыгнулі іх да зямлі, а потым разам адпусцілі. Вяроўкі рэзка нацягнуліся — і сошнікі гарматы адразу прыўзняліся над зямлёй.

Байцы хутка схапіліся за жардзіны і, падчапіўшы гармату, падштурхнулі яе. І тут тры бярозкі, нібы разумеючы, што ад іх патрэбна, дружна рванулі за вяроўкі і выпрасталіся, пацягнулі за сабой гармату. Тая, скокнуўшы, стала коламі на край канавы. Яшчэ момант — і яна гатова да бою.

"Падкаліберным!" — даў каманду Грыневіч і, злавіўшы ў прыцэл адзін з танкаў, які павярнуўся да іх бокам, стрэліў. Прамое пападанне. Адшукаўшы ў прыцэле другі танк, стрэліў у яго двойчы і, яшчэ не ўбачыўшы, інтуітыўна адчуў, што не прамахнуўся. Цяпер, калі іх гармата выявіла сябе стрэламі, вынік бою вырашалі хуткасць і дакладнасць. Таму наводчык адразу ж перанёс агонь на трэці танк, які поўз ужо па грабяні канавы і лупіў шторaз па лесе снарадамі. Прыцэліцца па танку было цяжка, заміналі дрэвы, але пасля трэцяга выстралу танк крутануўся на месцы, рассцілаючы пасля сябе разарваную гусеніцу. Успыхнула полымя, з падбітага танка пачалі выскокваць фашысты. "Асколачным!" — прахрыпеў Грыневіч...

Калі ўсё было скончана, ён цяжка апусціўся на станіну, адчуваючы, што сілы пакінулі яго. Побач чорны ад копаці і бруду Вайноў дрыжачымі ад напругі рукамі аціраў з твару пот. Не было сіл нават гаварыць. У лесе стала ціха-ціха, і чулася, як увышыні, у кронах бярозак лёгка шуміць ветрык.

Толькі на другі дзень полк прарваў варожую абарону і пайшоў у наступленне. Грыневіч з Вайновым сталі героямі дня. Іх віншавалі, абдымалі, у які ўжо раз цягнулі да падбітых танкаў, каб зноў агледзець прабоіны, пачуць падрабязнасці бою. "Дзякуй вам, хлопцы, — расчулена сказаў камандзір палка. — Каб не вы, прайшлі б немцы праз лес і ўдарылі з танкаў па нашым правым флангу". І падазваўшы начальніка штаба, загадаў: "Прадставіць да ўрадавых узнагарод: Грыневіча да ордэна Чырвонага Сцяга, Вайнова — да ордэна Чырвонай Зоркі".

Настрой у Грыневіча быў прыўзняты, але да яго ўвесь час прымешвалася трывога. "Хлопцы, — ціха спытаўся ён, — а не ведаеце, як там наш камандзір, Чарот, ці цяжкае ў яго раненне? І дзе ён цяпер?" "Не пашанцавала тваёму камандзіру, — пачуў у адказ. — Раздрабіла яму руку, шмат крыві згубіў. Цяпер яго ў шпіталь адправілі. А калі адвозілі, ён усё пра вас пытаўся: ці жывыя, ці не загінулі там, у дрыгве, разам з гарматай?"

Грыневіч сумна адышоў і, апусціўшы галаву, пайшоў па ўзлеску. Ён крочыў да сваёй гарматы. Яна там і стаяла, на ўскрайку канавы, дзе ішоў няроўны бой. А камандзір і не ведае, якім ён быў, гэты бой. Не ведае ні пра перамогу яго разліку ў гэтым баі, ні пра тое, што жывыя яны з Вайновым, ні пра тое, што выратавалі іх тры бярозкі. "Пакуль што не ведае, але я абавязкова яму пра ўсё раскажу. Толькі б убачыцца яшчэ калі-небудзь"...

... А да перона ўжо падыходзіў наступны поезд. Вось ён спыніўся, і з вагонаў пачалі выходзіць людзі. Грыневіч напружана ўглядаўся ў твары: "Ці прыехаў Чарот, ці пазнаю?" І тут пачуў гучны голас: "А ці не ведае хто, мой наводчык Грыневіч прыехаў?" "Дык вось жа ён!" — адразу адказалі некалькі галасоў. Грыневіч павярнуўся. Да яго, шырока ўсміхаючыся, крочыў высокі мужчына ў светлым касцюме. "Чарот, зусім сівы, а вочы тыя ж, вясёлыя". "Ну, што стаіш, наводчык, не пазнаеш?" І тады Грыневіч падаўся ўперад, абхапіў камандзіра і адчуў, што левы рукаў яго пусты. У грудзях нешта абарвалася, да горла падступіў пякучы камяк. "Даруй, камандзір", — прашаптаў Грыневіч. "За што?" — здзівіўся Чарот. "Даруй, што не ўтрымаў тады коней, разгубіўся". "Ну, брат, вось ты пра што. Гэта ж вайна, на ёй усялякае бывае. Лепш расказвай, як вы тады выкруціліся. Пазнаеш цяпер тыя мясціны, дзе быў той ранішні бой?" "Абавязкова пазнаю! — узрушана прагаварыў Грыневіч. — Па тых бярозках і пазнаю!" І ўбачыўшы здзіўлены твар камандзіра, дадаў: "Так-так, па нашых трох бярозках, якіх я ніколі не забуду і аб якіх столькі гадоў хачу вам расказаць..."

**Іван РАБАКОНЬ,**
**супрацоўнік музея Брэсцкая крэпасць-герой, інвалід II групы Вялікай Айчыннай вайны, гвардыі маёр запасу**

---

воінскага звання, хоць і быў я начальнікам штаба атрада памерам дзесьці паміж ротай і батальёнам, і прызначылі пенсію як шарагоўцу, калі па сканчэнні Беларускага дзяржаўнага універсітэта мяне не ўзялі ў аспірантуру, хоць за ўсе пяць гадоў у маёй залікоўцы не было ніводнай чацвёркі, і цынічна сказалі пры размеркаванні: "Падзякуй яшчэ, што ўвогуле дазволілі скончыць універсітэт", калі, нарэшце, кінулі мне толькі медалі "За адвагу" ды "Партызану Айчыннай вайны", не ўдастоіўшы нават стандартовага медаля "За победу над Германией" у той час, як мае армейскія калегі пахваляліся цэлымі іканастасамі ўзнагарод, — толькі тады я пачаў разумець, што ў адносінах сталінскіх камуністычных улад да беларускага Супраціўлення (менавіта так хацелася б называць наш партызанскі рух, што не горшы быў за вядомую Resistance, якою так ганарацца французы, было нешта вельмі нядобрае. І такімі яны былі не толькі да мяне, але і ўвогуле да пераважнай большасці беларускіх партызан.

Сталін і яго бальшавіцкая зграя не давяралі беларускаму партызанскаму руху і нават пабойваліся яго. Паўсталая ніяк не па загаду з цэнтра трохсотшасцідзесяцітысячная, хоць і дрэнна ўзброеная, але моцная духам армія па-за сферай прамога ўплыву СМЕРШа і заградатрадаў магла і выйсці з-пад іх пастаяннага кантролю. Тым болей, што за плячыма дзейнічала адкрыта варожая ім польская партызанская Абарона Краёва, якой кіравалі з Лондана. Узяўшы на ўзбраенне, так бы мовіць, рускую ідэю, хоць тэрмін той тады і не ўжываўся, і скіраваўшы ўсю сваю прапагандысцкую дзейнасць выключна на ідэю нацыянальна-вызваленчай вайны (ідэя абароны "социалистических завоеваний" рассыпалася, як картачны дамок у першыя ж месяцы вайны), маскоўскае начальства апасалася, што нам, беларускім партызанам, магла прыйсці на розум і беларуская ідэя. Хоць нашы маладыя, наіўныя галовы і былі забітыя з дзяцінства партыйна-камсамольскімі гасламі на базе "марксизма-ленинизма и пролетарского интернационализма" (нас сапраўды здзіўляла, напрыклад, як гэта нямецкія рабочыя ваююць супраць "колыбели" сусветнага сацыялізму), але фактычна ішлі мы ў лес са зброяй у руках, каб змагацца менавіта за родную, беларускую зямлю. Гэта нашы гарады і вёскі гарэлі пад нямецкімі бомбамі, гэта нашых людзей палілі ў свірнах разам з жанчынамі і дзецьмі фашысцкія карнікі, гэта нашых суседзяў па зямлі — яўрэяў — метадычна расстрэльвалі на могілках злавесныя зондэркаманды, гэта нашых матак дазвалялі сабе біць нагой у жывот чужыя нахабныя салдаты.

І не дзіва таму, што, нягледзячы на слабае, а часам і проста самаробнае ўзбраенне, мы былі моцныя менавіта духам. Гэта давала нам магчымасць процістаяць магутнай, прафесійна дасканалай і адладжанай нямецкай ваеннай машыне. Не дзіва, што і нямецка-фашысцкае камандаванне нас вельмі не любіла і баялася, таксама афіцыйна называючы нас бандытамі (праўда, да выразу "бандформирования" яно ўсё-такі не дадумалася). У парушэнне вядомай Гагскай канферэнцыі, яшчэ ў 1907 годзе акрэсліўшай юрыдычны статус партызана, які называўся ў яе тэксце камбатантам, немцы лічылі партызан абсалютна незаконнай з'яваю і пры выпадку расстрэльвалі іх, а то і вешалі пасля нялюдскіх катаванняў без суда і следства. Таму жывымі трапляць ім у рукі вельмі не хацелася. У нас, напрыклад, бытаваў грубаваты, але дакладны выраз "панюхаць гранату", змрочны сэнс якога, напэўна, кожны і сёння зразумее...



Вось гэтага менавіта духу і баяліся сталінскія сатрапы, бо ўжо тады яны выдатна ведалі, што толькі нацыянальная ідэя можа як выратаваць савецкую імперыю ў якасці рускага патрыятызму, так і ўзарваць яе знутры, прыняўшы форму ідэі беларускай, украінскай і г.д. Ведалі, бо памяталі, як знішчаўся нацыянальна-вызваленчы дух на Беларусі і ў іншых рэгіёнах у паслярэвалюцыйныя гады і як маладыя рэспублікі, толькі што вызваленыя з расейскай "турмы народаў", заганяліся Масквою ў новую турму — "Союз нерушимый республик свободных". Мы ж, маладыя тады і даверлівыя, таго ўжо не памяталі і не ведалі, бо ўсё старанна хавалася ад нас сістэмаю школы, адукацыі, выхавання.

І цяпер яшчэ, на жаль, многія людзі з майго пакалення, якія сумленна ваявалі і пралівалі кроў, ніяк не могуць ачысціць свае старыя галовы ад традыцыйнага прапагандысцкага смецця і маны.

Вось гэты менавіта дух, дух супраціўлення, абароны сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасці, цяпер ужо цалкам усвядомлены як беларуская ідэя, замацаваная і юрыдычна аформленая ў паняцці дзяржаўнага суверэнітэту маладой Рэспублікі Беларусь, павінен падтрымліваць нас і даваць нам сілу і сёння, каб перажыць той страшэнны крызіс, у якім мы апынуліся зноў. Гэтым высакародным духам павінна натхніцца наша моладзь, свядома ачмураная зараз рокам і сексам. Натхніцца, каб стаць, калі тое, не дай Бог, спатрэбіцца, на абарону сваёй маладой і такой пакутліва няшчаснай Айчыны.

Калі ўспамінаць, згодна старому мудрацу Фрэйду, толькі добрае з таго, што было ў мінулым, дык, пэўна, толькі гэты дух — дух нашай чалавечай і нацыянальнай годнасці, які даў нам сілы выжыць паўвека таму і які падтрымае нас у будучыні, якою б тая будучыня ні сталася...

**Мікола КРУКОЎСКІ,**
**прафесар, доктар філасофскіх навук, былы начальнік штаба 2-й Заслонаўскай партызанскай брыгады**

МАСТЫХІН

# ЧАЛАВЕК НАД ГОРАДАМ

У галерэі Альтэрнатыўнага тэатра адбылася персанальная выстава Артура Клінава, у мінулым арганізатара і актыўнага ўдзельніка авангарднай суполкі "БЛО". На выставе, якая мела загадкавую назву "Ешэду", мастак прадставіў працы некалькіх апошніх цыклаў, аб'яднаных агульнай творчай канцэпцыяй. Артур Клінаў азначае яе як "некрамантызм". З дапамогай пэндзля і мастыхіна мастак даследуе вантробы "трупа" сацыяльнай рэчаіснасці (маецца на ўвазе не толькі савецкая імперыя, але і ўвогуле эпоха гарадской еўрапейскай цывілізацыі). Прычым робіць гэта без агіды і навукова-аб'ектыўнай абыякавасці, а з усмешкай і нават нейкім аптымістычным пафасам.



Спрыяе гэтаму надзіва светлая, насычаная паветрам палітра. Дарэчы, раней Артур працаваў у змрочных, смурных фарбах, але адмовіўся ад іх, бо творы выглядалі занадта трагічнымі для пануючых у сучасным мастацтве густаў.

Ледзь не ў кожнай працы мастак імкнецца спалучыць трагічнае і камічнае, каб глядач заўсёды мог знайсці штосьці адпаведнае свайму сённяшняму настрою. Артур прызнаецца, што яго цягне ствараць панарамныя, эпічныя, сімфанічныя палотны. Праграмнай у гэтым сэнсе працай ён лічыць карціну "Мужык і чырвоны прусак" (чырвоны вусяк корпаецца, нібы ўспамін аб савецкім ладзе жыцця, у галаве люмпенізаванага п'янтоса).

Творы Клінава разлічаны, як мне падаецца, не на прамы позірк гледача, а на разгалінаваны, быццам дрэва. Мастак закладвае ў карціну ўсе магчымыя перспектывы, якія адкрываюцца з гледзішча жабы, з вышыні палёту мухі і птушкі і г.д. Таму на адным і тым жа палатне можна ўбачыць, напрыклад, людзей вышынёй з дрэва і з мураша. У аптычным сэнсе вельмі цікавая серыя нацюрмортаў на падваконні, дзе цэнтральная вертыкаль аконнай рамы ператвараецца ў такую ж метафізічную лінію, як далягляд, што адсабляе неба ад зямлі. І ўжо зусім на адкрыццё выглядае фортка, праз якую позірк трапляе ў нейкі іншы сусвет.

Заблытаную прастору твораў Клінава насяляюць дзіўныя, пакрыўджаныя жыццём персанажы два сонцы — чорнае і белае (хаця не выключана, што адно з іх — толькі цень другога).

Артур любіць маляваць гарадскія краявіды (дарэчы, па адукацыі ён архітэктар), але гарады ў яго заўсёды атрымліваюцца мройна-фантастычныя. Адзін з іх, падобны да каўчэга або герба Парыжа, гойдаецца ўвесь час на хвалях гісторыі, але на дно не ідзе. Другі вырастае з аднаго-адзінага будынка, як галіны з дрэва.



— напрыклад, "бягучая баба" (жанчына-самазабойца, якая баіцца спазніцца на (пад) цягнік), альбо багародзіца, якая плача над целам закатаванага сына на фоне аднаго з мінскіх заводаў. Але сустракаюцца і светлыя вобразы: людзі, падобныя да плямаў сонечнага святла на дрэвах у парку, ці хлопчык, які запускае ў неба паветранага цмока (дакладней, Змея Гарынича).

Неба ў Клінава ўвогуле заселена не менш шчыльна за зямлю. Па ім сноўдаюць самалёты невядомых канструкцый, анёлы, птушкі ды іншыя лятаючыя аб'екты, а аблокі паступова трансфармуюцца ў дрэвы, ключы, пальчаткі або іншыя карысныя прадметы. На адной карціне можна нават знайсці ў небе

Вельмі часта Клінаў скарыстоўвае прыём сіметрыі, каб выявіць дваістасць усіх рэчаў і падзеяў на свеце. А на карціне "Прывакзальная плошча" мы бачым нават падвойную сіметрыю: цалкам сіметрычныя не толькі неба і зямля, але і дзве вежы, што сталіся візітоўкай Мінска. Калі стаіш перад гэтай карцінай, мімаволі задаешся пытаннем: што такое беларуская сталіца — міраж у небе ці на зямлі?

Запомнілася яшчэ адна праца, дзе чалавек трымае над горадам лямпачку і асвятляе яго. Магчыма, такі лёс наканаваны не кожнаму мастаку, але Артуру Клінаву — напэўна.

*На здымках: "І карабель плыве"; "Злы нацюрморт"; Без назвы.*

# ЖАНОЧАЯ ЛОГІКА ЕЎРОПЫ

У Нацыянальным мастацкім музеі ў чэрвені адбылася персанальная выстава швейцарскай мастачкі Сусаны Бауман. Пераважаюць на ёй калажы або малюнкі на нейкіх тэхнічных схемах, аркушах з анатамічнага атласа і г.д. Відавочна, што Сусана Бауман, як і ўвогуле сучасныя постмадэрністы, не ўмее ці не лічыць магчымым пачынаць стварэнне выявы з нуля, з пустога белага аркуша.

Сапраўды, сучасны мастак, асабліва на Захадзе, жыве пад неўявіма моцным ціскам візуальнай інфармацыі. Яму ўсё цяжэй бачыць жыццё непасрэдна, на ўласныя вочы, усё цяжэй знайсці шчыліну для сваіх уражанняў паміж ужо намаляваным ці сфатаграфаваным кімсьці іншым.

Па словах швейцарскай мастачкі, яна звычайна пачынае з выпадкова прыцягнуўшых увагу афішаў, выкраек, кніжных ілюстрацыяў, цацак і г.д. і паступова замалёўвае іх, намагаючыся інтуітыўна выявіць душу знойдзеных прадметаў і прадметнасць уласнай душы. Прычым, кажа яна, "для мяне няма розніцы паміж творамі мастакоў і аб'ектамі, якія проста трапіліся мне дзесьці на вочы. Мне цікава ўсё, што чалавек зрабіў з любоўю. Гэтую жарсць можна адчуць і ў прадметах, прызначаных для практычнага карыстання, і ў творах мастацтва".

У выніку нечаканага сінтэзу на падставе "жаночай логікі" чужых і ўласных эмоцый атрымліваецца нешта парадаксальнае і няўцямнае. Кожны твор — шматаблічны ў поўным сэнсе гэтага слова: яго можна ўспрымаць па-рознаму, і ніколі не памылішся.

Сусана Бауман малюе на шматметровым слоі культуры, назапашаным еўрапейскай цывілізацыяй, і каб цалкам убачыць гэтыя творы, трэба мець не менш глыбокія карані ў культурнай глебе Еўропы...

Матэрыялы паласы падрыхтаваў **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# "ЯЙКАКВАДРАТЫ" З ІСПАНІІ

10 чэрвеня ў Міжнародным адукацыйным цэнтры, што на Паўднёвым Захадзе сталіцы, адкрылася персанальная выстава каталонскага мастака Хордзі Ферэ, у арганізацыі якой прынялі ўдзел турагенцтва "Спутник" і галерэя "Каўчэг".

Усе творы мастака з Іспаніі прыналежаць да аднаго цыкла, у якім даследуюцца праблемы суіснавання прыроды і цывілізацыі. Чымсьці яны вельмі нагадваюць серыю "яйкаквадратаў", якую пару гадоў таму стварылі паэт Алесь Разанаў і мастак Віктар Маркавец.

Паводле мастацтвазнаўцы Ірыны Стальной, Ферэ працягвае традыцыі каталонскай школы абстрактнага жывапісу. У кожным творы ён імкнецца да гармоніі паміж фармалістычным і пачуццёвым складнікамі выявы, напаўняе геаметрычныя структуры подыхам жыцця, скарыстоўваючы для гэтага вельмі цёплыя фактуру і каларыт.



Апрача гэтай выставы ў Міжнародным адукацыйным цэнтры пастаянна дзейнічае экспазіцыя твораў беларускіх мастакоў. Ірына Стальная правяла ўдзельнікаў вернісажу па калідорах і пакоях цэнтра, дзе можна ўбачыць палотны, графіку і скульптурныя аб'екты З.Ліцвінавай, А.Ксяндзова, К.Селіханава, Т.Сакаловай ды іншых мастакоў, якія пераважна ўваходзяць у суполку "Няміга, 17". Атрымалася яшчэ адна вельмі цікавая выстава, бо ледзь не кожны твор знаходзіўся за зачыненымі дзвярыма ў асобным памяшканні. Такім нечаканым чынам нібыта падкрэслівалася, што ўсе мастакі на гэтым свеце вельмі самотныя — нават калі іх можна прылічыць да "камерцыйных".

*На здымку: Хордзі Ферэ. Без назвы.*

# ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА КІТАЯ

Адным з бясспрэчных набыткаў дзяржаўнай незалежнасці для нашай культуры сталіся міжнароднага ўзроўню фестывалі, выставы, канферэнцыі, што так часта ладзяцца апошнім часам у розных кутках Беларусі, і асабліва ў сталіцы. Да гэтага бліскучага шэрагу падзей варта прылічыць і выставу прыкладнога мастацтва Кітая, наладжаную ў чэрвені Нацыянальным мастацкім музеем пры дапамозе амбасады КНР.

Ужо на ўваходзе ў музей наведнікаў сустракае знакаміты кітайскі ліхтар з малюнкам па шоўку і доўгімі чырвонымі пэндзлямі, якія звісаюць, нібы языкі, з пашчаў казачных цмокаў. Асабіста мяне вельмі ўразілі ажурныя экраны і веера з надзвычай тонка выразанымі ўзорамі і сцэнкамі з жыцця філосафаў і музыкантаў, прычым на адваротным баку мы раптоўна знаходзім зусім іншы сюжэт.

На выставе былі прадстаўлены самыя розныя кшталты традыцыйнага мастацтва Паднябеснай: рытуальныя маскі, цацкі ў выглядзе не вядомых заходняй цывілізацыі жывёлаў, дываны і шаўковыя абрусы, дэкаратыўныя пано з саломкі розных адценняў, папяровыя паветраныя цмокі, падобныя да казачнай жар-птушкі.

Сапраўдным цудам выглядала двухбаковая вышыўка па амаль празрыстым шоўку: выявы раслін, рыбак і птушак здаюцца больш жывымі, чым нават на каляровым тэлеэкране. Варта згадаць яшчэ вышыўку бісерам і золатам, разьбу па нефрыце, фігуркі і гадзіннікі, аздобленыя каляровай эмаллю.

Вялікую частку выставы займала сучасная кераміка — вельмі зручная, але і нейкая фантастычная адначасна. Здалёк прыцягвалі ўвагу талерка з разьбой, не меншая за спадарожнікавую тэлеантэну, і заварачны імбрык неўявімых памераў — літраў на сорак (адразу відаць, што кітайцы — нацыя калектывістаў: аднаму столькі ніколі не выпіць).

Экспазіцыя захапляе, але і стамляе: зашмат дробных дэталяў і занадта яркіх для нашага вока колераў. Вельмі цяжка сузіраць цуд на працягу колькі-небудзь доўгага часу. Вось так, напэўна, нашыя вочы не вытрывалі б і камунізму.

Не без дапамогі медытатыўнай музыкі выстава настройвае на філасофскі лад. Асабліва — знакамітыя кітайскія вазы, што ўвасабляюць даоскую ідэю быцця як вялікай пустаты, схаванай ад нас пад абалонкай словаў, грошай, рэчаў ды іншых прыладаў цывілізацыі...

*На здымку: Бадзісатва.*

**Фота А.ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ**



КАРАНІ

# ЯК ПАБУДАВАЦЬ ХРАМ

Ёсць у Мінску месца, дзе праз вуліцу стаяць побач радзільны дом, былая школа і турма. Відаць, іх так паставілі, каб прахожыя ўсведамлялі, у якой паслядоўнасці ім наканаваны лёс. Так у савецкі час жартавалі замежныя вандроўнікі і "галасы". Але праекціроўшчыкі і ўлады мелі адмысловы розум, якім не адрозніваліся ад сваіх папярэднікаў. Скажам — у XVIII стагоддзі. Дакладней — у траўні 1780 года, калі 456 коней прыцягнулі ў Магілёў 112 карэт, вазкоў і падверхаў са світай на чале з самой Кацярынай II.

Царыца тады ўпершыню наведала горад. Здзіўленая аздабленнем каталіцкіх кляштараў і касцёлаў, яна ахвяравала гаротнаму праваслаўнаму духавенству 200 тысяч рублёў. 12 ліпеня 1780 года па ейным загадзе казённай палаце даручылі ўзвесці ў Магілёве храм святога Іосіфа Абручніка. Галоўным наглядальнікам будаўніцтва стаў канцлер імперыі граф А.Безбародка. Ён паабяцаў прыслаць Франца Нобеля — "весьма искусного в теории и практике" архітэктара. Палата правяла таргі і 4 студзеня 1782 года заключыла на чатыры гады кантракт з пецярбургскім купцом Пятром Нікіфаравічам Чыраевым. Той абавязаўся акрамя царквы паставіць сваім коштам чатыры каменныя корпусы для прычту, мураваны ўцігамірвальны дом і кацярынінскую вучэльню. На ўсё выдаткавалі



84500 рублёў. Усе будынкі ставіліся побач і разам у гонар шчодрай паўночнай мецэнаткі.

Пабудову меліся выканаць па мадэлі ў 1,5 аршына даўжыні (5 м) паводле плана калежскага асэсара Львова. Царква займала плошчу 16,5х9 сажняў і 2 аршыны (35,2 х 20,2 м) і сягала ў вышыню на 8 сажняў (17 метраў) разам з купалам. На ўсё патрабавалася звыш 300 тысяч цаглін.

Вось апісанне тае царквы, якое падаецца паводле арыгінала і з захаваннем тагачаснага правапісу.

Купец браўся паставіць усе пабудовы "самой хорошей доброты, дабы никогда впредь идущия времена ни одну часть строения не могли повредить, а потом вымостить и между той церкви и четырёх корпусов по большой улице хорошим диким камнем площади".

У пярэднія сцены царквы, таўшчынёй 3,6 метра, клалі звычайную цэглу, у скляпенні і калоны — "клинчатую по формах каждой сорт одинакой пропорции, из которого по окончании фундамент класть. Лицевые и внутренние стены, столпы и колонны вдруг ватерпасно, чтоб одна сторона от другой не отставала и не уходила, хотя б то было в столбах и между окнами и чтоб швы в оных деланы были плотныя. Разбутку сажать в сок, заливая каждой ряд известью, а в наружной бы версте всегда б был лог и точок. В лицевой и внутренние стены, столбы класть для укрепления связи с чеками и засовами из самого хорошего мягкого сибирского железа. В той же церкви для наружнего и внутреннего дела на цоколи, лестницы, всходы и на площади оных, колонны, капители, базы, архитравы, фризы и карнизы должен быть дикой камень одинакого цвету и, когда паче чаяния, таков сыскать не может в количестве по сметам, то позволить в цоколи класть такия штуки, которыя б не менее были длиною одного аршина и одинакого цвету, а в другия места какого б цвету не был и чтоб тот камень вытесан был самою чистою мастерскою работою по показанию архитекторному по наугольнику, профилю и шаблонам, которой класть в дело весьма плотно в известь и связывать один с другим железными скобами, заливая оные свинцом.

А притом наблюдать, чтоб поперечный шоф на шар не приходил. Стропилы сделать из сибирского мягкого железа, поставить в надлежащия места з закрепами и винтами железными. А потом покрыть оную церковь железными белыми аршинной меры листами, загибая края один с другим и прикрепливая оные железными же винтами, у которых были б головки плоския белаго ж железа. А сверх того запаивать те листы по загибнутым краям англинским оловом, дабы нигде течи не было.

Под куполом и фронтонами, где будет крыша сходиться с углами, а равно вокруг оной поделать железныя крепкия жолобы весьма толсто выложенные оловом. Но чтоб вода вниз стекала, то зделать в каждом угле церкви такия ж трубы, которыя провесть в стены дабы снаружи не видно оных было. Концы же труб выпустить внизу в самом цоколе.

Наверху церкви поставить на железном шпиле прикрепленной крепко винтами из железной меди глобус, который бы был полированной и вызолоченной червонным золотом чрез три огня и на той глобус положить полосы из высеребренной жести, а потом поставить на помянутом глобусе также из желтой меди вызолоченной червонным же золотом чрез три огня крест.

Внутри церкви выслать пол чугунными аршинными плитами, которыя класть в известь плотно. Все наружныя стены, фронтоны, наличники, филёнги, колонны с их капителями, архитравы, фризы и карнизы обштукатурить, а наличники и карнизы вытянуть по шаблону сходно с фасадом. Внутри церкви прежде обштукатурить стены, цоколь, столбы, колонны с их капителями и базами, архитравы, фризы, карнизы, наличники, филёнги, а также на дверях и на нишах фронтоны и потом на оной штукатурке зделать по пробе архитекторской фальшивой полированной мрамор такого точно цвета, какой в прорезе показан и чтоб по уборке точно походила на настоящий мрамор. А под куполом зделать на фальшивом же мраморе скульптурной работы гирлянды с фестонами из чистаго белаго алебастра, дабы полировкою своею соответствовали мрамору. Да и снаружи в переднем входе на фронтоне зделать также скульптурной работы сияние с треугольником, а по сторонам онаго входа поставить в нишах другие изображения первоверховных опостолов Петра и Павла, высеченныя из белаго камня, обмазанныя алебастром и выполированныя сходно с мрамором.

В средине церкви в нижеписанных местах написать итальянскою живописью, называемой алфреско, точно такими красками, как в прорезе и описи показано. Все своды, кроме средняго большого купола воздухом с облаками в среднем большом куполе против самого отверстия нижняго свода изобразить яркими красками небесный свод, а облаки с воздухами темнее нижняго купольного свода. Под облаками в первом куполе двенадцать опостолов, которые бы видны были в зделанныя в нижнем своде сквозные ниши под нижним куполом в четырех падинах между аркадов четырех евангелистов, сидящих на облаках по обеим сторонам северной и южной дверей и двух против оных в задней стене, по обеим же сторонам ниш 8 святых, а в четырех фронтонах дверей и ниш господския праздники и под оными на филёнгах зделать надписи какия приказано будет. В показанныя же ниши зделать в одну бронзовую купель образом древняго ваза, а в другую — стол, на котором освящаются хлебы из крепкаго дерева по рисункам.

Иконостасную стену зделать из кирпича, а колонны с их капителями и базами, архитравы и карнизы — из белаго камня ионического ордена и все оное обштукатурить и потом убрать фальшивым мрамором такого цвету, какой в прорезе и описи назначен на четырех медных досках, написав местные иконы Спасителя, Богоматери, Иосифа Обручника и святую великомученицу Екатерину, самою хорошею итальянскою живописью на масле, поставив между колоннами в четырех падинах и над ними в филёнгах зделать надписи.

Царския двери зделать створчатые сквозные с розетами, которые б были под цвет бронзы. На одной половине оных должны быть медальон медный же, на котором написать тоже итальянскою живописью на масле Благовещание пресвятые богородицы, а также зделать северные и южные двери на железных рамах, обложенные цельными медными листами и на тех дверях написать итальянскою же живописью на масле две иконы: одну — архистратига Михаила с держащим в руке мечем, а другую — святаго архидьякона Стефана с кадилом.

Внутри олтаря под престолом зделать сень с колоннами коринфского ордена из лапис лазури, капители, карнизы и архитрав бронзовые или из желтаго фальшивого мрамора яркого цвета. На передней стороне той сени под карнизом на фризе и архитраве зделать бронзовой или лепной работы желтаго яркого цвета тайную вечерю, а на верху оной сени поставить образ воскресения Христа спасителя, высеченной из белаго камня, обмазанной алебастром и выполированной так, чтоб сходен был с мрамором. По сторонам же около сени написать алфрескою такия колонны, какие в иконостас и между ими святые образы какие приказано будет.

Зделать наружные створчатые трое дверей, рамы оных из сибирскаго железа и обложить их по обеим сторонам медными полированными цельными листами, которые навесить на три петли и ко оным зделать медныя самыя большия три замка с шапконетами. А чтоб легче те двери открывались, то зделать внизу оных у каждой дверной половине медныя колесы и под них положить железные фугованные полосы.

Над передними дверьми у входа зделать на медной доске надпись буквами медными вызолоченными червонным золотом. В девять нижних, двенадцать купольных и два боковых в фронтонах окна зделать из сибирскаго железа рамы с переплетом и обложить оныя вокруг полированными медными листами так, чтоб спаек было не видно, из которых нижния девять должны быть створчатыя с железными обложенными медью шпононетами. Во все те нижния, верхния и полуциркульныя окна вставить шлифованныя белыя немецкия толстыя стёкла".

Апошні 17-ты пункт дамовы тычыўся пабудовы чатырох корпусаў, кожны ў два паверхі "со сводами обштукатуренными снаружи и изнутри. В каждом корпусе поставить голандския изразцовыя печи, окна — из белаго стекла в деревянных рамах, двери с петлями и железными замками". Падлогу ў іх масцілі дошкамі, столі накрывалі "накатными обштукатуренными бревнами". Дахі пакрывалі "деревянными стропилами железом, выкрашенным аршинными листами в загиб одно с другим плотно".

Храм св. Іосіфа быў знішчаны ў 30-я гады нашага стагоддзя. Акрамя прыведзенага апісання захаваліся вызначэнні яго будаўнічых параметраў. Магчыма, гэтага дастаткова для аднаўлення святыні. Дык што — пабудуем храм?

**Яўген АНІШЧАНКА,**
**кандыдат гістарычных навук**

# ХАРАСТВО... У ГЛІНЕ!



*Гаршковая кафля. XV ст. Лідскі замак.*



*Паліхромная паясовая кафля з геральдычным сюжэтам. Канец XVI — пачатак XVII ст. Мірскі замак.*



*Тэракотавая кафля з выявай святога Юр'я на кані. XVII ст. Мсціслаў. Тупічэўскі манастыр.*



*Паліхромная кафля. Канец XIX — пачатак XX ст. Віцебск.*



*Тэракотавая кафля з выявай мужчыны. Сярэдзіна XVI ст. Заслаўскі замак.*

Помню, яшчэ ў часы існавання СССР "ЛіМ" — газета свядомай беларускай інтэлігенцыі — не-не дый змесціць ліст якога інтэлігента — з нараканнем, што няма беларускіх паштовак...

Безумоўна, афіцыйныя паштоўкі на беларускую тэму існавалі, не без таго. Мы мелі шчасце сузіраць нававбуды чарговай пяцігодкі, бясконцую ленініяну, хаця, як вядома, правадыр бальшавіцкай рэвалюцыі ніколі ў Беларусі не быў, але па ўвекавечанні ягонага вобраза на сваёй тэрыторыі БССР, мусіць, абскакала ўсе брацкія рэспублікі. Яшчэ тое-сёе было.

Не было толькі паштовак, звязаных з цудоўнай і багатай гісторыка-культурнай спадчынай беларускага народа. Пад асаблівую забаронаю знаходзіліся выявы храмаў, замкі ды палацы магнатаў. Але як толькі саслабла ранейшая ідэалагічная цэнзура, а ў краіну разам з незалежнасцю прыйшла хваля нацыянальнага адраджэння, заўважна памяняліся асартымент і тэматыка беларускіх паштовак — на радасць многім і многім. І ўжо не сорамна было паслаць калегам у Нямеччыну маляўнічую паштовую картку — з выяваю абарончай царквы XV стагоддзя або мілы калядны сюжэт, велікоднае блаславенне або выявы гербаў старажытных беларускіх гарадоў, адбіткі шыкоўных беларускіх выцінанак ці копіі твораў беларускіх мастакоў, якія вельмі някепска глядзяцца з паштоўкі.

І вось чарговы падарунак аматарам паштовак — выдавецтва "Беларусь" выпусціла ў свет набор новых каляровых картак, ажно 33 асобнікі, прысвечаныя беларускай кафлі. Наклад, як кажуць, не надта вялікі, але і не малы — 5 тысяч асобнікаў.

Беларускае кафлярства — з'ява досыць цікавая ў гісторыі нашага народа. Цяжка назваць такі горад ці мястэчка, дзе мураваныя, а пазней і драўляныя, жылыя пабудовы абыходзіліся без кафляных печаў. Яны не толькі абагравалі пакоі (безумоўна, людзей багатых), але цешылі вока і сэрца, бо былі надзвычай прыгожыя і маляўнічыя. І гэта дае падставы сцвярджаць, што кафля не толькі выраб утылітарнага прызначэння, але і разнавіднасць мастацтва. Готыка і рэнесанс, барока і ракако, класіцызм і мадэрн — усе гэтыя стылі знайшлі ўвасабленне ў беларускім кафлярстве.

Складальнік тэматычнага набору паштовак і аўтар тэксту — Алег Трусаў, беларускі гісторык і археолаг. Ён адабраў надзвычай цікавыя выявы кафлі XIV — XX стагоддзяў з многіх нашых гарадоў і мястэчак. Гэта вырабы самай рознай канфігурацыі. Гэта — знаходкі беларускіх археолагаў у апошнія 10 — 15 гадоў. Гэта — экспанаты музеяў. Але дзякуючы майстэрству фатографаў В.Бараноўскага і Г.Ліхтаровіча, В.Сліжа і Л.Ліпніцкага, А.Спрынчана цяпер хараство ў гліне можа пабачыць кожны. Тэксты — а гэта невялічкая гістарычная даведка і подпісы на паштоўках — зроблены на беларускай і англійскай мовах. Кошт паштовак невялікі. Калі набор набыць у самім выдавецтве, то гэта толькі 10 тысяч рублёў...

**Алена НАВАРАЙ**

## ТВОРЧАЯ КУХНЯ

# “СКІРУЙЦЕ МІКРАФОН У НЯБЁСЫ...”

## (Слухаючы фільм)

***У гэтай прафесіі шмат чаго інтуітыўнага, невытлумачальнага, таямнічага. Мой суразмоўца параўнаў яе з працай мастака: гукі, з якімі ён працуе, падобныя да фарбаў, тэхнічныя сродкі (мікрафоны, пульты, стужка і да т.п.) — гэта пэндзлі, а падрыхтаваная фанаграма — палатно, карціна. Такім чынам, пазнаёмцеся — Андрэй ВОЛКАЎ, гукааператар кінастудыі “Беларусьфільм”.***

**— Андрэй, дык што ж гэта за прафесія — гукааператар кіно?**

— Гэта проста чалавек, які адказвае за гук і можа тут зрабіць абсалютна ўсё. Раней гэта была вузка тэхнічная спецыяльнасць — гукааператар сачыў за ўзроўнем запісу, за размяшчэннем мікрафонаў і нават за цішынёй на здымачнай пляцоўцы. Творчы бок прафесіі праявіўся адносна нядаўна, са з'яўленнем магнітнай стужкі, на якой можна “звесці” самыя розныя гукі, вынаходзіць іх. На сучаснай апаратуры можна, напрыклад, выправіць адзін-адзіны гук у шапялявай ці картавай мове акцёра.

**— А ці цяжка ўвогуле запісваць маўленне? Мабыць, гэта самы галоўны са складнікаў фанаграмы. “Слухаючы” фільм, глядач звычайна арыентуецца менавіта на тэкст, а ўжо потым на музыку ці шумы.**

— Запісваць маўленне цяжэй за ўсё, таму што яно заўсёды павінна заставацца дакладным, да таго ж нашыя фільмы ў асноўным размоўныя. Я лічу, што чалавечы голас — унікальны музычны інструмент. Усе астатнія створаны чалавекам, а голас дадзены Богам, прыродай, гэта — касмічная з'ява. Асабіста для мяне голас — візітоўка суразмоўцы, па ім я магу вызначыць характар чалавека, высветліць ці складуцца нашыя з ім адносіны.

Запісваючы моўную фанаграму для фільма, сустракаешся з дзвюма праблемамі. З аднаго боку, мова акцёра па тэмбры павінна гучаць роўна. А з іншага — трэба не парушыць планавасць. Гэта значыць, як мы кажам, “укласці мову ў рот акцёра”. Да прыкладу, размаўляючы, акцёр на экране адварочваецца, а мова захоўвае тую ж гучнасць, не мяняючыся. А на буйным плане мова персанажа павінна гучаць інакш, чым на сярэднім ці агульным.

Да таго ж шмат чаго залежыць ад прафесіяналізму акцёраў. Самае лепшае ўражанне ў мяне засталося ад працы з Уладзімірам Гасцюхіным і Людмілай Гурчанка. У іх нават пры шаптанні ці буркаценні тэкст чуваць на ўсе сто працэнтаў. Такая дыкцыя — проста падарунак для гледачоў!

**— У мяне ўзнікае іншы раз непрыемнае, нават жудаснае ўражанне, калі я бачу на экране вядомага акцёра, што размаўляе чужым голасам, голасам дублёра. Адна справа, калі мы не ведаем “сапраўдных” галасоў акцёраў, як напрыклад, у шматлікіх заакіянскіх тэлесерыялах — тут дублюючыя галасы Конкіна ці Варлей успрымаюцца больш ці менш натуральна, мы прымаем такія ўмовы гульні...**

— У маёй практыцы быў іншы выпадак, калі акцёр нарэшце загаварыў сваім голасам і ніхто ў гэта не паверыў. Я маю на ўвазе фільм “Ваўкі ў зоне”, дзе іграў Ёзас Кіселюс, добра вядомы па тэлесерыяле “Доўгі шлях у дзюнах”. Там мы памятаем яго з чыста расейскай мовай, і раптам — новы тэмбр, невялікі акцэнт... Усе пыталіся — хто яго агучвае?

А ўвогуле гукавы дублёр можа ўзбагаціць вобраз. Так адбылося з голасам ліліпуткі ў фільме рэжысёра Анатоля Князева “Безумной страстью ты сама ко мне пылаешь...” У выканаўцы быў высокі, нават вісклівы голас. А Таццяна Баўкалава пры агучванні ўнесла пяшчоту і эратычнасць, таму персанаж стаў цікавейшы, больш паэтычны...

**— У гэтым фільме гучыць музыка Г.Канчэлі. Як Вам працавалася з гэтым знакамітым кампазітарам?**

— Рэжысёр Князеў шукаў музыку ў духу Ніна Рота. Паступова мы “выйшлі” на Канчэлі, даслалі яму відэаматэрыялы, і ён зрабіў музычныя загатоўкі. Тады, калі мы прыехалі ў Тбілісі, заставалася толькі запісаць падрыхтаваную музыку. Добра, што ў драмтэатры імя Руставелі, дзе ён працуе, выдатная студыя гуказапісу. А музыка цудоўная — у спалучэнні з выявай яна дае адчуванне светлага суму, апаэтызаванай самоты.

**— З усіх элементаў фанаграмы — мовы, музыкі і шумаў — самай творчай галіною застаецца для Вас галіна шумоў.**



**Бо мова — гэта ўласнасць акцёра, музыка — кампазітара, а вось шумы — цалкам Ваша парафія.**

— На жаль, шумам традыцыйна адводзіцца ў фанаграме апошняя роля. Памятаеце авантурны фільм “Шчыт і меч”? Дык вось там у адносінах да мовы шумы займалі прыкладна дзесяць працэнтаў фанаграмы. Прычым мова была добра запісана, разборліва, а шумы — недакладныя. У асноўным такі стан захоўваецца і зараз, хаця менавіта з шумамі можна шмат эксперыментаваць. Мы часта карыстаемся шумавымі фактурамі з фанатэкі. У гэтым гукавым зборы можна знайсці не проста канкрэтны гук, а падабраць яго па характары, настроі. Спевы птушкі, да прыкладу, могуць быць нервовымі, сумнымі ці радаснымі. А ў фільме В.Панамарова “На чорных лядах” мне трэба было стварыць гукавую атмасферу правінцыі пачатку XX стагоддзя. Вы ж разумееце, гукавы фон сучаснай вёскі зусім іншы. Давялося камбінаваць ужо гатовыя гучанні — напрыклад, брэх сабак — з наноў запісанымі. Тут важна было ўявіць гэтую карціну, вясковы пейзаж, і ўяўленне пачало працаваць.

**— Мяне ў свой час уразіла, што для фільма Мікіты Міхалкова “Урга. Тэрыторыя кахання” было запісана больш за 30 відаў ветру...**

— Тут няма нічога дзіўнага. Запісаць можна нават сто відаў шуму вятроў, асабліва ў стэпу. Усталюйце мікрафон на зямлі — гэта адзін від, на ўзроўні росту травы — другі, на вышыні метра ад зямлі — трэці, над галавой — чацвёрты, скіруйце мікрафон у неба — пяты, пасуньце на 180 градусаў — і так далей. Потым змяніце мікрафон — вось вам яшчэ з дзесятак вятроў. Галоўнае, каб усё гэта працавала на агульную ідэю. Іншы раз натуральных шумоў недастаткова і даводзіцца вынаходзіць новыя. У кінаказцы “Вогненны стралок” рэжысёра М.Князева я прыдумаў гукі, якія ўмоўна назваў “подых пячоры”, “серабрэнне”, “зіхаценне”. Напрыклад, у злаславага стралка вырастае горб — гэты момант адлюстраваны і ў фанаграме: я ўзяў гук тканіны, што рвецца, замарудзіў яго, трансфармаваў, “размыў”, наклаў на яго гук курткі, што рвецца на карку, — і атрымаўся цікавы эфект. Ці — ў тумане героі чуюць дзіўныя гукі, чыёсьці дыханне, адкуль узнікае адчуванне таямнічага, казачнага.

А ў цэлым, безумоўна, трэба гуляць па правілах, што прынятыя ў фільме, улічваць, рэалістычны гэта стыль ці ірэальны. Рэжысёр Марк Браўдэ ў фільме “Рамантык” — гэта была мая першая праца на “Беларусьфільме” — даў мне ўрок верагоднасці: ён заўважыў, што гук аўтамабіля, што рухаецца, не адпавядае хуткасці: машына едзе на трэцяй хуткасці, а ў гучанні — чацвёртая.

**— Андрэй, мы казалі пра асобныя элементы фанаграмы — пра мову, музыку, шумы. Але ў прасторы фільма яны існуюць у адзінстве...**

— Як у кампазітара ёсць музычная партытура, так і ў гукааператара ёсць свая гукавая партытура, дзе маўленне, музыка і шумы выступаюць як інструменты ў аркестры — яны самастойныя, роўныя і ў той жа час узаемадзейнічаюць адно з адным. Магчымасць стварэння такой партытуры я знайшоў у дакументальным кіно, у прыватнасці, у фільмах С.Гайдука. Найбольш удалы, на маю думку, наш фільм “Ветрык арэляў”.

**— У гэтым фільме, мне падаецца, з'ядналіся амаль усе віды мастацтва — жывапіс, архітэктура, паэзія, музыка. Гістарычныя даведкі чаргуюцца з вершаванымі радкамі, рок-рытмы з урыўкамі са Стравінскага. У гэтым кантэксце надзвычай сучасна ўспрымаюцца абаяльныя вобразы жанчын часоў Вялікага княства Літоўскага — Барбары і Урсулы Радзівіл, Эміліі Плятэр.**

— Трэба сказаць, мастацкі савет доўга не прымаў гэты фільм менавіта з прычыны нетрадыцыйнай фанаграмы. А глядзельная зала ў Доме літаратара прымусіла паўтарыць увесь фільм “на біс”. Гэты выпадак і скіраваў мой вектар пошукаў. Справа ў тым, што яшчэ падчас працы над фільмам “Вогненны стралок” я адчуў тупіковасць сітуацыі — фанаграма была ў асноўным штучная, “алгебра” пераважала над “гармоніяй”. На камбінацыях знойдзеных прыёмаў можна было б існаваць усё жыццё, але адкрыццяў і задавальнення не будзе. У гуку можна вылучыць тэхналагічны і псіхалагічны бакі. А ў псіхалагічным, у сваю чаргу, — два моманты: ёсць гук, што існуе для разумення, вытлумачэння, і ёсць гук-пачуццё, што працуе на інтуіцыю гледача. Першы момант — традыцыйны, пачатковы этап — такой “рацыянальнай” была роля слова і музыкі ў раннім гукавым кінематографе. Але зараз становіцца важнейшым эмацыйнае ўздзеянне гуку. Я ўпэўнены, што будучыня за такой, эмацыйна-пачуццёвай фанаграмай, якая спараджаецца інтуітыўна.

**— Яна звернута галоўным чынам да падсвядомасці гледача?**

— Не зусім. Ёсць небяспека ўлезці на чужую тэрыторыю — глыбінныя слаі чалавечай памяці, я называю гэта “сакураўшчынай”. Штурм чужой падсвядомасці — гэта варварства і бандытызм, апеляваць да яе трэба асцярожна. Фанаграма можа быць добрай і зласлівай, што знітавана і з асобай гукааператара — сваю агрэсію ён можа ўвесці ў падсвядомасць гледача. З праглядаў некаторых фільмаў я проста сыходжу, аберагаючы сябе ад таго злога, чорнага, што ёсць у гуку і выяве. Кінамастацтва — гэта духоўная страва, а нам часцяком прапануюць з экрана харчовыя рэшткі. Да іх я адношу так званую “чарнуху”, іншы раз шыкоўную “чарнуху”. А вось страшэнны, трагічны фільм рэжысёра Элема Клімава “Ідзі і глядзі” робіць іншае ўражанне — я адчуваю, што аўтар ідзе побач са мной, гледачом, дапамагае перажыць жудасныя сцэны, не пакідае мяне да канца і прыводзіць да ачышчэння. І цудоўная работа гукааператара Уладзіміра Морса ўзмацняе гэта ўражанне.

**— І наколькі інтуіцыя дапамагае Вам у стварэнні гукавога вобраза?**

— Першы званочак, які скіраваў мяне ў рэчышча інтуітыўных пошукаў, прагучаў у рабоце над мультфільмам “Каляднае”. Тут я сутыкнуўся з бязмежным даверам рэжысёра Ірыны Кадзюковай, што прывяло мяне ў некаторую разгубленасць. Увогуле жанчыны-рэжысёры схільныя больш давяраць іншым стваральнікам фільма, яны больш заклапочаныя не сваімі амбіцыямі, а сваім “дзіцем” — творам. У гэтым фільме — я адчуваў — павінны быць добрыя, пяшчотныя, лёгкія гукі. Так з'явіліся крыштальныя тэмбры, гук капытка казляняці, які мы імітавалі асцярожным пастукваннем пазногцяў па стале. Голас Б.Плотнікава-апавядальніка таксама гучаў пяшчотна, музыка была ў такім жа ключы. У пэўны момант мы спыніліся, палохаючыся перагрузкі і перанасычанасці фанаграмы. Засталася невялікая колькасць асноўных гукаў. Працуючы над другой навелай гэтага мультфільма, я “пачуў” у сабе гукі музычнай шкатулкі. Яны і сталіся асноўным гукавым вобразам фільма, вобразам дзяцінства.

Паступова я прыйшоў да высновы, што калі я ў працы абапіраюся на ўласную інтуіцыю, дык і глядач успрымае гукавую прастору фільма адэкватна.

**— Мабыць, у гэтых пошуках Вам дапамагае практыка “Ленфільма”, дзе Вы працавалі падчас вучобы ў Інстытуце кінаінжынераў?**

— Так, на “Ленфільме” маім настаўнікам быў гукааператар Алі Гасан-задэ, які адпрацаваў у кіно амаль 30 гадоў і зрабіў усе фільмы Дзінары Асанавай, С.Снежкіна і іншых. Увогуле ленінградская, зараз пецярбургская, школа гукарэжысуры адна з самых лепшых і цікавых — узгадайце хаця б гук у фільмах У.Арыстава, А.Германа, В.Агароднікава. Дастаткова высокі ўзровень гукарэжысуры і на “Беларусьфільме” — цікава працуюць гукааператары Сяргей Чупроў, Уладзімір Галаўніцкі, Уладзімір Сухадолаў, Сяргей Бубенка. Прафесія наша адна з самых цяжкіх у кінематографе і варта пажадаць нам большай увагі, падтрымкі і даверу з боку нашых калег.

**Гутарку вяла Антаніна КАРПІЛАВА**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік — **Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Арсен ВАНІЦКІ, Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 6500
Замова 2206
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Міністэрства культуры і друку выказвае глыбокія спачуванні галоўнаму рэдактару часопіса “Тэатральная Беларусь”, загадчыку кафедры Беларускага універсітэта культуры САБАЛЕЎСКАМУ Анатолю Вікенцевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю жонкі.**

**Калектыў цэнтральнага апарату Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь смуткуе ў сувязі са смерцю Генеральнага дырэктара ВА “Белпрамкультура” Новікава Анатоля Авяр'янавіча і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**